


# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень 27

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА “Рэдакцыя газеты “Рэгіянальная газета”.

4 снежня 2015 года №49 (1075)

## Час Святланы Алексіевіч. Канец ігнараванню

Якія дыскусіі гучаць вакол Нобеля

старонка 2

– Гэта я чаму раней злы быў? Таму што вы на "РГ" не падпісаныя былі!



Падпішыцеся! Не нервуйце Печкіна.

## Што даў гімназіі №10 у Маладзечне год супрацы ў праекце “Школы: партнёры будучыні”

старонка 5

## Спектакль пра эгаізм старых паказалі ў Маладзечне. Як прайшлі гастролі тэатра з Віцебска

старонка 6



# Мне 21 год. І ў мяне 51-ы памер нагі

**Вадзім Бычкоўскі з Валожына просіць дапамагчы знайсці абутак**

старонка 3

Фота Настассі РОЎДЫ.

ДЫСКУСІІ

# Час Святланы Алексіевіч. Канец ігнараванню

**Першую ў гісторыі Нобелеўскую прэмію прадстаўніку Беларусі ў літаратурным свеце краіны ўспрынялі неадназначна. Алексіевіч даюць літаратурную прэмію, хаця яе творы – шэраг інтэрв'ю, аб'яднаных адной тэмай і сабраных пад адной вокладкай. Здаецца, пісьменніца паходзіць з Беларусі, але сябе яна называе касмапалітам. Творы рускамоўныя, а мы дэманструем іх усяму свету як частку беларускай культуры.**

Апусціць гэтыя вадавочныя супярэчнасці, пакінуць іх без адказу, працягваць і далей ігнараваць Алексіевіч цяпер немагчыма.

Мы дазналіся спадарыні Святлане напярэдадні яе ад'езду на ўручэнне Нобелеўскай прэміі, аднак праз недахоп часу яна адклала ўсе пытанні да яе вяртання ў Беларусь.

### Журналістыка, літаратура ці проста шэдэўр

Пытанне, да якога жанру аднесці творы Нобелеўскай лаўрэаткі, стала ключавым на сустрэчы, арганізаванай міжнароднай дыскусійнай панэллю Global Bar, заснаванай ў Швецыі.

Удзельнічалі ў ёй шведскія журналісты **Давід Ісаксон** і **Сафія Хэйнэ**, шведска-сербскі журналіст і пісьменнік **Прэдраг Драгосавач**, беларускія журналісты.

– Давайце ўявім гіпатэтычную сітуацыю, – прапанаваў Давід Ісаксон. – Мужчына бачыць, што яго дом гарыць, і ён забягае туды, каб выратаваць дзяцей і жонку. Сам пры гэтым гіне ў агні. Вы, журналіст, ідзяце на месца здарэння, каб зрабіць матэрыял. Пішаце вельмі эмацыйны рэпартаж: словы маці, дзяцей. Інфармацыі мала, акцэнт на эмоцыі. Чытачоў менавіта гэта і цікавіць: што адчувае сям'я пасля трагедыі. Пасля журналіст вырашае, што хоча пагледзець, як далей складзецца лёс жанчыны, якая страціла мужа. Матэрыялы могуць публікавацца ў часопісе штомесяц. Затым можна напісаць пра гэта кнігу. Вось тут і з'яўляецца складанасць у размежаванні паняццяў. Калі гэтая гіпатэтычная гісторыя закране сэрцы і ўзніме глабальныя пытанні, напрыклад, ці варта ахвяраваць жыццём дзеля кагосьці, менавіта тады журналістыка можа стаць літаратурай.

Іншая думка Давіда звязаная з тым, што менавіта літаратура дае нам магчымасць абмяркоўваць тэмы, не прынятыя для абмеркавання ў грамадстве. Кнігі Алексіевіч – суцэльнае табу, таму падчас чытання можа з'яўляцца і абурэнне, і адмаўленне.

– Напрыклад, у кнізе "Час сэканд-хэнд. Канец чырвонага чалавека" Алексіевіч распавядае, як людзі даносяць адзін на аднаго, – прыводзіць прыклад Давід Ісаксон. – Гэта немагчыма зразумець, гэта вечнае пытанне, якое пад табу. Літаратура ж можа паказаць праўду і дазваляе абмяркоўваць такія рэчы. Каб зразумець падзеі, якія адбываліся некалі ці адбываюцца сёння, трэба ведаць, як іх успрымаюць, як бачаць іншыя людзі.

Прэдраг Драгосавач журналістыку і літаратуру вымярае іншымі катэгорыямі.

– Ёсць два паняцці: рамяство і мастацтва, – кажа Прэдраг. – Часта, калі чалавек кожны дзень працуе над сваім творам, укладваецца ў яго, у выніку атрымліваецца сапраўдны твор мастацтва. Не важна, якая ў яго форма. Дзякуючы намаганням аўтара з'яўляецца дыямент. І не важна, журналістыка гэта ці літаратура, калі атрымаўся свайго роду шэдэўр.

### Пра тое, што Алексіевіч будуць праходзіць у школе

Налета ў праграму старшакласнікаў збіраюцца ўключыць два творы Святланы Алексіевіч: "Цынкавыя хлопчыкі" і "Чарнобыльская малітва". Пра гэта пасля абвяшчэння імя лаўрэаткі паведамляла Міністэрства адукацыі.

– Яна выдатная пісьменніца, – кажа кіраўніца музея "Вілейшчына літаратурная" ў Ільянскай школе **Роза Шэрая**. – І яе творы варта ўключаць у школьную праграму. Не важна, што некаторыя лічаць яе творчасць журналістыкай. Журналістыка – таксама літаратура. Тым больш, у кнігах Святланы Алексіевіч гістарычная аснова, шмат гістарычных фактаў.

З такім пунктам гледжання пагаджаюцца і настаўніцы маладзечанскай гімназіі №7.


Фота tut.by.

Святлана Алексіевіч.

**Урачыстая цырымонія ўручэння Нобелеўскай прэміі Святлане Алексіевіч з фармулёўкай "за шматгалосае гучанне яе прозы і ўвекавечанне пакуты і мужнасці" адбудзецца 10 снежня ў Стакгольме. Памер узнагароды – 8 мільёнаў шведскіх крон. Гэта амаль 970 тысяч долараў.**

– Слушна, што творы ўключаць у праграму, – гаворыць намесніца дырэктара па выхаваўчай рабоце, настаўніца беларускай мовы і літаратуры **Таццяна Буйко**. – У старэйшых класах вучні могуць свядома ацэньваць тыя праблемы, якія ўзнімае ў творах пісьменніца, рабіць высновы. Тым больш, Святлана Алексіевіч распавядае пра падзеі, з якімі можна праводзіць паралелі на наш такі складаны час. Яе кнігі могуць дапамагчы зрабіць правільны выбар. Калі гаварыць пра несумяшчэнне журналістыкі і літаратуры, то я з гэтым не згодная. Журналістыку можна разглядаць як адгалінаванне літаратуры. Мы вывучаем і эсэ, і нататкі. Варта ведаць усё багацце літаратуры.

– Дзеці павінны ведаць лепшыя творы пісьменнікаў Беларусі, – упэўненая намесніца дырэктара па вучэбнай рабоце ў пачатковай школе, настаўніца рускай мовы і літаратуры **Алена Бедункевіч**. – Пагаджуся, што кнігі Алексіевіч хутчэй адносяцца да журналістыкі, але гэта не абмяжоўвае іх вартасць. Сучасныя дзеці мала глядзяць тэлебачанне і чытаюць газеты. З кніг гэтай пісьменніцы яны змогуць даведацца пра глабальныя праблемы 20 стагоддзя. Пра вайну, пра ролю жанчыны на вайне, пра Афганістан, Чарнобыль.

### Што значыць Нобелеўская прэмія для Беларусі

Ужо два месяцы ў кулуарах паміж выдаўцамі, пісьменнікамі, літаратарамі ідуць гарачыя спрэчкі вакол прэміі і асобы Святланы Алексіевіч. Гаварыць пра свае перажыванні гатовыя не ўсе.

Асноўнае, што не дазваляе радавацца Нобелю, гэта касмапалітызм і рускамоўнасць пісьменніцы, якую па гэтай прычыне ў інтэрв'ю tut.by беларускі пісьменнік **Адам Глобус** называе рускім творчым дзеячам:

– Я вельмі рады за рускую літаратуру – за тое, што яна атрымала яшчэ адну прэмію. Яна сама з Беларусі, грамадзянка Беларусі, а пісьменніца яна руская. Беларуская пісьменнікі пішуць па-беларуску. Гэта маё такое стаўленне, і я яго не буду мяняць.

Падобнай пазіцыі прытрымліваецца і старшыня Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны **Алег Трусаў**:

– Яна не раз выказвалася супраць беларускай мовы, сцвярджала, што гэта гета. У адносінах беларускай мовы і культуры яна нам не сябра.

– Цешыць, што цяпер Беларусь будуць ведаць не толькі па біятлоне і хакеі, – так пракаментаваў сітуацыю для "РГ" пасол Швецыі ў Беларусі **Марцін Оберг**. Яго засмучае той факт, што імідж Беларусі ў свеце ніжэйшы, чым мог бы быць.

**Настасся РОЎДА.**

**ТЭМА НУМАРА**

# Мне 21 год. У мяне 51-ы памер нагі

## Малады чалавек просіць дапамагчы яму знайсці абутак

ВАЛОЖЫН

**У садок Вадзім Бычкоўскі ішоў з 40 памерам нагі. У чацвёртым класе нага вырасла да 45 памеру. Цяпер памер 51, і ўжо зусім не да жартаў: такога абутку ў продажы не знайсці, а гарантыі, што нага не вырасце яшчэ больш, няма.**

У пошуках патрэбнага памеру абутку хлопец абзваніў і аб'ездзіў ледзьве не ўсю Беларусь. Апошнія тры з паловай гады выбар абутку для маладога чалавека быў проста пакутай.

– У якую краму ні зайду, самы вялікі памер – 45-46. Калі ў мяне быў 48 – знаходзілі абутак у Польшчы. Сёлета мне прывезлі адтуль туфлі 50 памеру. Але ўжо і яны мне ціснуць, – кажа малады чалавек.

Два гады таму Вадзіма прызвалі ў войска. Сёлета ў ліпені хлопец пайшоў у Валожынскую вайсковую часць на кантрактную службу. Для яго гэта выратаванне: вайсковыя берцы – адзіны абутак, у якім больш-менш камфортна.

– У горад не выйсці: вайсковы абутак пад звычайнае адзенне не пасуе. Даводзіцца хадзіць у форме, – дадае малады чалавек.

Рост у хлопца – 1,97 метра. Ужо ў садку ён на галаву абганяў аднагодкаў.

Такога вялікага памеру нагі ў сям'і Вадзіма ні ў каго больш няма. Бацька носіць абутак 42-43 памеру.

– Камусьці можа і смешна, а мне – не. Я не магу набыць нармальны абутак.

Цяпер камандаванне ў вайсковай часці падбірае Вадзіму зімовыя і летнія туфлі пад паўсядзённую форму адзення.

– Хацелася б мець і на зіму, і на вясну, і на лета, і спартовы абутак. Спортам займаюся з дзяцінства: футбол, валейбол, цяжкая атлетыка, – дзеліцца Вадзім. – Ездзіў у сталічнае атэлье, там гатовыя зрабіць пад замову пару, але гэта каштуе больш за шэсць мільёнаў рублёў. І чакаць давядзецца месяц.



Фота Настасі РОЎДЫ.

Вадзім Бычкоўскі ўжо больш за тры гады не можа набыць абутак у звычайнай краме.

### Ці сапраўды абутак вялікага памеру не знайсці

Самы вялікі абутак, які вырабляюць буйныя айчынныя вытворцы, – 47-48 памеру. Так што знайсці абутак у звычайнай краме сапраўды немагчыма.

Выйсце – невялікія фірмы, што робяць абутак пад замову. Праўда, некаторыя не робяць абутак такога вялікага памеру, паколькі няма адпаведных калодак. Іншыя гатовыя ўзяцца, але цана можа дасягаць шасці мільёнаў рублёў.

Толькі ў адной з ваўкавыскіх майстэрняў па тэлефоне адказалі, што вырабіць абутак змогуць і за мільён рублёў. І адразу папярэдзілі, што перад гэтым трэба прыязджаць да іх на абмер нагі.

**Калі вы ведаеце, дзе можна замовіць абутак 51 памеру, пішыце ў рэдакцыю: region-news@rh.by. Альбо звaніце па тэлефоне (80176) 76-96-67.**

### З гісторыі: хто насіў 63 памер абутку

Здымак француза **Фердынанда Контата** даслаў у рэдакцыю чытач **Аляксандр Салагуб**, які жыве ў Маладзечне. Фота захоўваецца ў яго сямейным архіве ад 1932 года, і перайшло ад бацькі. Яму падарылі здымак пасля прадстаўлення ў "Шапіто", з якім Фердынанд Контат ездзіў са сваім бацькам. Падчас кірмашу людзі сцякаліся паглядзець на сапраўднага веліканa.

На адваротным баку здымка напісана, што Фердынанд нарадзіўся ў 74-м дэпартаменце Верхняя Савоя 30 верасня 1902 года. Яго рост – 2,35 метра. Вага – 206,5 кілаграма. Вялікі палец яго рукі цалкам накрываў пяціфранкавую манету. Памер нагі – 63. Калі Фердынанд разводзіў рукі, то адлегласць ад кончыкаў пальцаў адной рукі да кончыкаў пальцаў другой была 2,52 метра.



Фота забяспечана Аляксандрам САЛАГУБАМ.

На фота француз Фердынанда Контата (злева) са сваім бацькам.

### У "Кнігу рэкордаў Гінеса" трапіў хлопец з памерам 59

У кастрычніку 2014 года ў "Кнігу рэкордаў Гінеса" трапіў **Джэйсан Арланда Радрыгес Эрнандэс** з Венесуэлы. У 20 гадоў памер яго ног – 40,1 см (правая нага) і 39,6 см (левая нага). Хлопец носіць 59 памер абутку.

Гэтую асаблівасць Джэйсан заўважыў на свой дзявяты дзень нараджэння, калі яны з сябрамі пачалі параўноўваць памеры ног. Джэйсан кожны раз перамагаў сваіх сяброў падчас падобных замераў. Прыдатны абутак Эрнандэсу даводзіцца замаўляць у Нямеччыне.



Настасся РОЎДА
nastya.rovdo@gmail.com
Vel 566-26-99 (працоўны)

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 26.11 | 3.12 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 18 127,00 | **18 085,00** |
| Еўра | 19 328,00 | **19 204,00** |
| Злоты | 276,96 | **4 487,70** |
| Расійскі рубель | 274,94 | **271,00** |
| Грыўня | 753,71 | **758,28** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне 2.12** | | |
| Еўра | 19150/19400 | **19000/19300** |
| Долар ЗША | 18000/18250 | **18000/18200** |

**ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна)**

| ПРАДУКТЫ | 25.11 | 3.12 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса "Мядовая", 1 кг | 144 500 | **144 500** |
| Сасіскі, 1 кг | 54 500 | **54 500** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 29 400 | **29 400** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 75 000 | **80 000** |
| Мінтай свежамарожаны, 1 кг | 39 800 | **39 800** |
| Селядзец, 1 кг | 54 000 | **54 000** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 118 000 | **135 000** |
| Рыс, 0,9 кг | 14 000 | **14 000** |
| Грэчка, 0,8 кг | 17 000 | **17 000** |
| Яйкі курыныя, 1 дзясятак | 13 000 | **13 000** |
| Алей "Дзіўны", 1 л | 23 500 | **23 500** |
| Маянэз, 200 г | 5 700 | **5 700** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 14 500 | **14 500** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 43 500 | **43 500** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 13 000 | **13 000** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 6 900 | **6 900** |
| Часнок, 1 кг | 47 900 | **47 900** |
| Капуста, 1 кг | 3 800 | **4 000** |
| Морква, 1 кг | 4 900 | **5 900** |
| Баклажаны, 1 кг | 29 500 | **5 400** |
| Лімоны, 1 кг | 34 500 | **34 500** |
| Апельсіны, 1 кг | 29 500 | **29 900** |
| Мандарыны, 1 кг | 23 500 | **19 900** |
| Грэйпфруты, 1 кг | 29 900 | **29 900** |
| Ківі, 1 кг | 24 900 | **24 900** |
| Буракі, 1 кг | 4 900 | **6 000** |
| Памідоры, 1 кг | 17 900 | **19 500** |
| Агуркі, 1 кг | 32 500 | **29 900** |
| Перац, 1 кг | 39 900 | **39 900** |
| Вінаград, 1 кг | 26 500 | **26 900** |
| Бананы, 1 кг | 19 500 | **16 900** |
| Хурма, 1 кг | 29 900 | **29 900** |
| Шампіньёны св., 1 кг | 47 900 | **46 900** |
| Яблыкі, 1 кг | 12 900 | **12 900** |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 24 900 | **24 900** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 18 000 | **18 000** |
| Масла, 1 кг | 100 000 | **100 000** |
| Тварог, 1 кг | 55 000 | **55 000** |
| Бульба, 1 кг | 3 000 | **4 000** |
| Сала, 1 кг | 100 000 | **100 000** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 25 000 | **25 000** |
| Мёд, 0,5 л | 60 000 | **60 000** |

ЗДАРЭННІ

## Затрымалі мужчыну, якога падазраюць у серыях гвалтаванняў

МАЛАДЗЕЧНА

**1 лістапада ў Бярозе Брэсцкай вобласці супрацоўнікі міліцыі затрымалі 44-гадовага грамадзяніна Расіі па падазрэнні ў серыі гвалтаванняў.**



Яны былі ў Брэсцкай і Мінскай абласцях з 1994 па 2014 гады. Гвалтаванні былі напрацягу 20 гадоў

Мужчына здзяйсняў злачынствы ў лесе побач з чыгуначнымі пуцямі і аўтамабільнымі дарогамі. У большасці выпадкаў ён нападаў ззаду, падаўляў супраціўленне, душыў пацярпелых рукамі альбо пры дапамозе адзення, наносіў удары па розных частках цела, пагражаў нажом, часам нецэнзурна выказваўся. У некаторых выпадках мужчына прадстаўляўся Сяргеем, прапаноўваў зачаць дзіця альбо сустракацца ў далейшым.

**Прыкметы мужчыны:** рост 168 сантыметраў, сярэдняга каржакаватага целаскладу. Цёмныя кароткія валасы, цёмныя вочы, у верхняй сківіцы штучны зуб з металу жоўтага колеру. Насіў заручальны пярсцёнак альбо пячатку, кварцавы механічны гадзіннік у корпусе жоўтага колеру. Пасля гвалтавання ён краў залатыя вырабы и грошы.

Па інфармацыі, вядомай міліцыі, не ўсе ахвяры звярталіся ў праваахоўныя органы.

Просім грамадзян, якія нешта ведаюць пра злачынствы, здзейсненыя мужчынам на фотаздымку, альбо самі сталі ахвярамі ўказаных злачынстваў, паведаміць у Маладзечанскі РАУС.

Тэлефоны: **(80176) 74-98-55, (80176) 77-0312, (80176) 77-1656, 98029) 667-92-31, (8029) 269-58-21** альбо ў бліжэйшы аддзел міліцыі па тэлефоне **102**. Ананімнасць і канфідэнцыяльнасць гарантуюцца.

Паводле начальніка Маладзечанскага РАУС Валянціна АСІПОВІЧА.

## Пенсіянера збілі гарачай качаргой

МЯДЗЕЛ

Здарэнне адбылося 10 лістапада. Сам 63-гадовы пенсіянер у міліцыю звярнуўся 25 лістапада. Ён расказаў, што яго збілі двое мужчын.

Падчас следства, расказаў "Рэгіянальнай газеце" начальнік Мядзельскага РАСК Аляксандр Штура, высветлілася, што ўсе яны былі паміж сабой знаёмыя, неаднаразова судзімыя.

10 лістапада мужчына атрымаў пенсію і запрасіў да сябе двух мужчын, 33 і 32 гадоў.

Кампанія выпіла, і гаспадар прыхапіў — ці вырашылі завалодаць грашыма гаспадара.

Збілі яго рукамі і гарачай качаргой.

У выніку гэтага пенсіянер атрымаў пералом грудзіны, апёк грудной клеткі, абедзвюх кісцяў рук, сцёгнаў і пахвіннай вобласці.

З такімі цялеснымі пашкоджаннямі мужчына не шпіталізаваўся.

Зламыснікі скралі ў пацярпелага два мільёны рублёў.

Узбуджаная крымінальная справа па артыкуле "Разбой".

Наталля ТУР.

## У Маладзечне 12-гадовая дзяўчынка скрала ровар

МАЛАДЗЕЧНА

Здарэнне адбылося ў суботу, 28 лістапада. Ад магазіна "Дабрадар", што месціцца на вуліцы Замкавай, 12-гадовая школьніца скрала ровар.

Дзяўчынка, якая жыве ў раёне плошчы Старое Места, адагнала скрадзены ровар на Лясныя, туды, дзе жыве яе бабуля.

Але школьніца не ўлічыла, што каля магазіна ўсталяваныя дзве камеры відэаназірання.

Міліцыянерам было дастаткова прайсціся з відэазапісам па бліжэйшых школах, і юную парушальніцу закона цягам дня ўдалося знайсці.

Паколькі дзяўчынцы яшчэ 12 гадоў, да адміністрацыйнай адказнасці будуць прыцягнутыя бацькі.

Дзяўчынка ж знаходзіцца на ўліку ў інспекцыі па справах непаўналетніх (ІСН).

Пра здарэнне "Рэгіянальнай газеце" расказаў інспектар ІСН Маладзечанскага РАУС **Яўген Колесень.**

Наталля ТУР.




У двары па Вялікім Гасцінцы згарэлі дзве машыны. БМВ аднаўленню не падлягае. Фота Яўгена КАРОСЦІКА.

АВАРЫІ

# У двары згарэлі дзве машыны

МАЛАДЗЕЧНА

**Здарэнне адбылося ў пятніцу, 20 лістапада.**

У двары жылога дома па Вялікім Гасцінцы днём загарэліся дзве машыны: "Фольксваген-Пасат В2" і БМВ 5 серыі.

Сітуацыю пракаментаваў першы намеснік начальніка Маладзечанскага гаррайаддзела па надзвычайных сітуацыях **Андрэй Рабец:**

– Матэрыялы па гэтай справе знаходзяцца ў РАУС на праверцы. Прычына здарэння пакуль невядомая. Не выключаецца і версія з падпалам. Верагодней за ўсё, загарэлася спачатку адна машына, але трэба дачакацца вынікаў праверкі. Магчыма, будзе праведзены следчы эксперымент.

Гаспадыня машыны **Алена** расказала "Рэгіянальнай газеце", што гэта быў падпал:

– Літаральна за пару дзён да здарэння муж ездзіў на СТА, таму мы ўпэўненыя, што з машынай усё ў парадку.

Машына Алены, БМВ загарэлася першай, затым агонь перакінуўся на Фольксваген.

– Мы гутарылі з гаспадаром другой машыны, яна пацярпела не так моцна. Наша ж машына 2001 года выпуску аднаўленню ўжо не падлягае.

У РАУС гаспадарам машыны пакуль пра прычыны здарэння таксама не гавораць. Чакаюць вынікаў праверкі.

Наталля ТУР.

ЗДАРЭННІ

## На пажары загінуў пенсіянер

ВАЛОЖЫН

25 лістапада апоўначы на "101" паступіла паведамленне аб тым, што знойдзены загінулы ў згарэлым дачным доме па адрасе: Валожынскі раён, Ракаўскі сельсавет, садовае таварыства "Крыніца".

Выратавальнікам, што прыбылі на месца здарэння, стала вядома, што адкрытага гарэння няма, а дачны дом выгарэў знутры, дах знішчаны па ўсёй плошчы.

Работнікі МНС на ложку ў пакоі знайшлі цела гаспадара дома, 79-гадовага пенсіянера. Загінулага мужчыну характарызавалі станоўча, ён не ўжываў спіртныя напоі, не курыў.

Мяркуюць, прычына пажару – парушэнне правілаў эксплуатацыі электрасетак і электраабсталявання (няспраўнасць аўтаматычнага выключальніка абагравальніка).

Пажар знішчыў дах, дачны дом выгарэў знутры. Паведамленне аб пажары ў цэнтр аператыўнага кіравання Валожынскага раённага аддзела па надзвычайных сітуацыях не паступала.

На месца здарэння выязджалі аператыўныя групы: Валожынскага РАНС, РАУС, Следчага камітэта і пракуратуры. Валожынскі раённы аддзел па надзвычайных сітуацыях у чарговы раз нагадвае: не эксплуатуйце няспраўныя электрычныя прыборы, адрамантуйце пячное ацяпленне і электрычную праводку.

Паводле Валожынскага РАНС.

## Двух кіроўцаў дасталі з машын выратавальнікі

ВІЛЕЙКА

Дарожна-транспартнае здарэнне адбылося апоўдні 29 лістапада. На аўтадарозе паблізу вёскі Глінная Асіпавіцкага сельсавета сутыкнуліся "Фальксваген Пасат" і "Сітраэн Эвазіон". Апошняя машына пры абгоне выехала на паласу сустрэчнага руху, і ў выніку адбылося лабавое сутыкненне, расказаў часовы выканальнік абавязкаў начальніка аддзялення ДАІ Вілейскага РАУС **Дзмітры Субач**.

У аварыі пацярпелі чатыры чалавекі. Дваіх з іх, кіроўцаў машын, выратавальнікам давялося дэблакіраваць пры дапамозе гідраўлічнага інструмента. Аднаму кіроўцу – 47 год, другому – 34. Пацярпелых з траўмамі рознай ступені цяжкасці шпіталізавалі.

Дзмітры Субач нагадвае, што ў складаных умовах надвор'я кіроўцы павінны быць асабліва ўважлівыя на дарозе.

Аддзел інфармацыі.

## Пры лабавым сутыкненні заблакіравала кіроўцу

ВІЛЕЙКА

Паведамленне аб ДТЗ паступіла каля 16 гадзін 30 лістапада.

Каля вёскі Касцяневічы на аўтадарозе Мінск-Мядзел адбылося лабавое сутыкненне аўтамабіляў "Таёта Карына" і "Газэль". Пры сутыкненні заблакіравала кіроўцу.

Да месца выкліку накіравалі падраздзяленні выратавальнікаў, брыгаду хуткай медыцынскай дапамогі.

Выратавальнікі з дапамогай адмысловай прылады дэблакіравалі кіроўцу аўтамабіля "Таёта Карына", грамадзяніна Расійскай Федэрацыі. Яго з траўмамі шпіталізавалі. Кіроўца "Газэлі" не пацярпеў.

Паводле mchs.gov.by.

# Што даў гімназіі №10 у Маладзечне год супрацы ў праекце "Школы: партнёры будучыні"

## Ён дазваляе лепш вывучыць мову і культуру Германіі, а таксама пашырыць кругагляд



Фота з архіва Інстытута імя Гётэ ў Мінску.

**У межах праекта "Школы: партнёры будучыні" вучні гімназіі №10 удзельнічалі ў стварэнні міжнароднага комікса "Вакол свету за 80 дзён", у якім малявалі частку пра Беларусь.**

### Праект развівае і вучняў, і педагогаў

Пагадненне аб супрацоўніцтве ў межах ініцыятывы "Школы: партнёры будучыні" падпісала дзяржаўная ўстанова адукацыі "Гімназія №10 г. Маладзечна" і інстытут імя Гётэ ў Мінску 10 лістапада 2014 года. Гімназію прадстаўляла дырэктар установы адукацыі **Таццяна Камкова**, а інстытут – кіраўніца моўнага аддзела **Мая Мхэйдзе**.

Каардынатарам праекта з боку гімназіі стала настаўніца нямецкай мовы **Вольга Бруй**.

Гімназія №10 далучылася да праекта, які стартаваў у 2008 годзе дзякуючы ініцыятыве Федэральнага міністра замежных спраў Германіі д-ра **Франка-Вальтэра Штайнмайера**. Яго ідэя палягае ў тым, каб сфарміраваць міжнародную сетку, якая аб'яднае тысячу партнёрскіх школ і будзе садзейнічаць інтарэсу і сімпатыям моладзі да сучаснай Германіі.

> "Мы не толькі лепш ведаем нямецкую мову, але і пашыраем кругагляд"

У межах праекта створаныя магчымасці для павышэння якасці навучання дзяцей нямецкай мове, а таксама ўдасканаленню кваліфікацыі настаўнікаў, пашыраюцца кампетэнцыі для навучання ў ВНУ Германіі і развіцця прафесійнай кар'еры ў міжнародным маштабе, прадугледжаная магчымасць для школьнікаў наведаць Германію і пазнаёміцца з краінай.

Сёння Інстытут імя Гётэ ў Мінску курыруе пяць школ, якія знаходзяцца ў Гродне, Маладзечне, Мінску, Слуцку і Оршы і належаць да гэтай сеткі.

### Калі вучышся паважаць чужую культуру, вучышся паважаць і сваю

Каардынатар праекта "Школы: партнёры будучыні" з боку гімназіі Вольга Бруй рапавядае:

– Мы яшчэ навічкі ў праекце "Школы: партнёры будучыні", але за год мы атрымалі пэўныя вынікі. Праект мае вялізнае значэнне і для дзяцей, і для педагогаў, і для бацькоў. Нядаўна завяршылася праграма, падчас якой група і беларускіх, і нямецкіх вучняў правялі па тыдні і ў Беларусі, і ў Германіі. Яны наведвалі мерапрыемствы, экскурсіі, музеі, экалагічныя семінары, каб лепш даведацца пра культуру краін. Яшчэ адна нядаўняя актыўнасць – конкурс коміксаў. Удзельнікі адправілі свае работы, а пераможцаў запрасілі на тыдзень у Мінск у Інстытут імя Гётэ на семінар па графіцы ад нямецкай мастачкі **Кіці Каханэ**. Разам яны малявалі беларускую частку сусветнага комікса "За 80 дзён вакол свету".

Удзел ва ўсіх мерапрыемствах для гімназістаў бясплатны. Кожную актыўнасць стымулююць невялікімі ці вялікімі прызамі.

Гаворачы пра уплыў на ўзровень валодання нямецкай мовай, я лічу, што значную ролю адыгрывае матывацыя. Для ўдзелу ў любым мерапрыемстве неабходна ці апісваць праект, ці іншым чынам паказваць добры ўзровень мовы. Дзеці бачаць рэальныя магчымасці таго, як нямецкую мову можна прымяніць. Яны больш ахвотна займаюцца дадаткова.

Педагогі таксама атрымалі шмат магчымасцяў для павышэння кваліфікацыі і развіцця. Да таго ж, мы можам заказваць патрэбныя кнігі, дыскі, фільмы, якія дазваляюць зрабіць урокі больш цікавымі.

Праект садзейнічае і іншым мэтам: дзеці становяцца больш талерантнымі, яны з павагай ставяцца да іншай культуры. Але, параўноўваючы, гімназісты з большай увагай ставяцца і да сваёй культуры, бачаць яе адметнасць. Быў такі момант, калі нашы так натхнёна распавядалі пра свой горад, што нямецкія дзеці сказалі: "Мы хочам жыць у вас".

## "Праект пашырае кругагляд"

Інстытут імя Гётэ накіраваў экспертаў па нямецкай мове, якія курыруюць школы-партнёры. Яны дапамагаюць паглыбіць веданне мовы, развіць кампетэнцыі міжкультурнай камунікацыі і зрабіць жывым краіназнаўчы досвед. Такім экспертам для гімназіі №10 стала 20-гадовая немка **Яна Донар**, якая некалькі месяцаў жыве ў Маладзечне.

У заходняй моладзі распаўсюджаная з'ява, калі пасля заканчэння школы маладыя людзі адразу не паступаюць ва універсітэт, а аддаюць год валанцёрству, каб упэўніцца, якой працы хочуць прысвяціць жыццё. Дзяўчына некалькі разоў на тыдзень ладзіць мерапрыемствы для вучняў. Напрыклад, 1 снежня Яна арганізавала заняткі па майстраванні ліхтарыкаў, з якімі пасля ў чацвер школьнікі будуць хадзіць вакол школы ў гонар Дня святога Марціна. Гэта традыцыйнае для некаторых краін Заходняй Еўропы свята, прысвечанае заканчэнню сельскагаспадарчых работ. Падчас яго на кожнай вуліцы запальвалі вогнішча.

– Мне вельмі падабаецца працаваць з дзецьмі, ладзіць разнастайныя мерапрыемствы, – распавядае Яна. – Гэта вельмі ўдзячны занятак.

11-класніца **Соня Баркоўская** аддана займаецца вывучэннем нямецкай мовы, у 2014-2015 навучальным годзе атрымала дыплом першай ступені ў рэспубліканскай алімпіядзе па нямецкай мове. Соня атрымала стыпендыю PAD – нямецкай Службы педагагічных абменаў, дзякуючы якой наведвала семінары, а таксама пабывала ў розных гарадах Германіі. Дзяўчына дзяліцца ўражаннямі ад удзелу ў праекце:

– Эмоцый вельмі шмат! Столькі новых людзей, столькі цікавых гарадоў і краін, з якімі я пазнаёмілася дзякуючы праекту. Мерапрыемствы моцна паглыбілі веды ў гісторыі, ды і наогул неверагодна пашырылі кругагляд. Зразумела, што такога ўзроўню размоўнай мовы, вымаўлення без удзелу ў праекце дасягнуць было б немагчыма. Самае яркае ўражанне пакінула наведванне мюзікла ў Берліне, прысвечанага гісторыі Берлінскай сцяны.

Вучаніца 11 класа **Дыяна Ланюгова** ў мінулым навучальным годзе атрымала дыплом другой ступені ў рэспубліканскай алімпіядзе па хіміі. Аднак нямецкая мова таксама стала важным прадметам. Дзяўчына разам з іншымі чатырма вучнямі гімназіі ўдзельнічала ў моўным летніку ў літоўскіх Друскеніках:

– Гэта незабыўна! Я пазнаёмілася з аднагодкамі розных нацыянальнасцяў. Ніколі не думала, што бываюць такія розныя і цікавыя людзі. Сапраўды, як ужо адзначыла Соня, такія знаёмствы пашыраюць і нават мяняюць кругагляд.

> Цяпер часам вечарамі прыгадваю летнік – і на вочы наварочваюцца слёзы.

У межах праекта самай яркай падзеяй для мяне стала наведванне Берліна. Няхай гэта заняло толькі адзін дзень, але гэты дзень быў настолькі насычаны, што забыць яго немагчыма! Калі раней мы гэтыя будынкі ці пейзажы бачылі на карцінках, а цяпер яны проста перад вачыма, апаноўваюць такія эмоцыі! Развітанне таксама запомнілася, было столькі слёз… А таксама ўдзячнасць за цудоўны досвед.



## Ад конкурсу паштовак да міжнародных стыпендый

Толькі за год супрацы ў межах праекта "Школы: партнёры будучыні" ў гімназіі адбыўся шэраг актыўнасцяў разнастайных накірункаў. У аснове кожнага з іх – нямецкая мова. Але да гэтага яшчэ дадаюцца і іншыя цікавыя і пазнавальныя веды і культурныя аспекты. Некаторыя мерапрыемствы ў межах праекта "Школы: партнёры будучыні":

**Лістапад 2014 года**

- майстар-клас па валенні па матывах нямецкіх казак для вучняў 5-6 класаў,
- семінар "Экскурсія па Берліне",
- канцэрт нямецкага хіп-хоп гурта Tom Thaler und Basil,
- нямецка-беларуская моладзевая сустрэча Школьны мост".

**Снежань 2014**

- семінар для настаўнікаў "Выкарыстанне навучальных дапаможнікаў на занятках па нямецкай мове",
- конкурс калядных паштовак.

**Сакавік 2015**

- моўныя экзамены з атрыманнем міжнароднага сертыфіката. З 46 вучняў 43 атрымалі "выдатна".

**Май 2015**

- семінар "Караблебудаванне ў Германіі" для вучняў 5-8 класаў.

**Лета 2015**

- семінар па краіназнаўстве для педагогаў гімназіі ў нямецкім горадзе Любек,
- семінар для педагогаў у Франкфурце-на-Одэры "Сістэма вышэйшай адукацыі ў Германіі",
- 5 вучняў гімназіі адпачылі і павысілі моўны ўзровень у моўным летніку ў Друскеніках,
- 2 гімназісты прайшлі навучанне ў моўнай школе ў Дудэрштадце ў Германіі,
- 2 гімназісткі былі ўзнагароджаны стыпендыяй PAD. У межах праграмы яны цягам месяца наведвалі семінары, розныя гарады Германіі.

● КАНЦЭРТ

# Анатоль Кашапараў: горад лёсу не Волагда, а Маладзечна

МАЛАДЗЕЧНА

**Творчы вечар залатога голасу залатога саставу легендарных "Песняроў" Анатоля Кашапарава адбыўся ў Маладзечне 28 лістапада.**

Менавіта так Анатоля Яфімавіча гэтым вечарам называлі яго калегі.

Гэтым канцэртам, ці дакладней будзе сказаць, сапраўднай творчай сустрэчай з гледачом, з сябрамі, з калегамі, Анатоль Яфімавіч адзначыў сваё 65-годдзе.

Павіншаваць калегу з Днём Нараджэння прыехалі **Алег Елісеенкаў, Эдуард Ханок, Ядвіга Паплаўская і Аляксандр Ціхановіч, БДА "Песняры"** і многія іншыя артысты.

У глядзельнай зале прысутнічаў **Ігар Лучанок**.

Пачаўся канцэрт з музычнай нарэзкі тых песень, якія мы ведаем і помнім дзякуючы голасу Анатоля Кашапарава: "Лявоніха", "Я не магу інакш", "Добры вечар, дзяўчыначка", "Спадчына" і, канешне ж "Волагда".

Анатоль Кашапараў прызнаўся, што хаця ў гэтай лёсавызначальнай для яго песні ёсць радкі, што Волагда – гэта горад, дзе лірычнага героя чакае лёс, аднак для самаго Анатоля Яфімавіча такім горадам стаў горад Маладзечна. Менавіта ў Маладзечне ён зрабіў першыя крокі на сцэну, калі вучыўся ў музычным вучылішчы.

Дарэчы, песня "Волагда" праз канцэрт прайшла лейтматывам. Па-першае, Анатоль Кашапараў яе выканаў пад акампанемент на акардыёне Алега Еліненкава.

А па-другое, сапраўдным сюрпрызам вечара стала выступленне маленькіх выканаўцаў са студыі "Спяваем разам". Яны выканалі "Волагду" у сучаснай рокавай манеры. І словы ў песні давялося змяніць.

Цяпер закаханы юнак не носіць асабіста лісты на пошту, а строчыць сваёй дзяўчыне ў Волагду лісты па электроннай пошце.

І ў прыпеве: "Дзе ж мая цемнавокая, дзе?", адказвае сабе на гэта пытанне: "Зноў сядзіць у інтэрнэце, дзе, дзе?".

З асаблівай цеплынёй маладзечанскія гледачы прымалі гурт "Учкудук". Так, паслядоўнікі легендарнага ансамбля "Ялла", назвалі свой гурт назвай усім вядомай песні.

У выкананні ансамбля і яго салiста **Зіявітдзіна Ішанхаджаева** прагучалі дзве песні: "Чайхана" і "Учкудук".

На прыпеве песні "Учкудук – тры калодзежы" да гурта далучыўся сам юбіляр:

– І на сцэне з'явіўся чацвёрты калодзеж, – усклікнуў **Зіявітдзін Ішанхаджаеў.**

Не абышлося ў гэты вечар і без прэм'ер песень.

**Наталля ТУР.**



Фота Наталля ТУР.

**Зіявітдзін Ішанхаджаеў (злева) разам з Анатолем Кашапаравым (справа) выканаў песню "Учкудук".**

● КНІГІ

## "Бабуліны макі" Аляксандра Быкава

МЯДЗЕЛ

У выдавецтве "Каўчэг" выйшла чарговая кніга мядзяльчаніна **Аляксандра Быкава** "Бабуліны макі".

На гэты раз выдалі не зборнік вершаў Аляксандра. У новай кнізе сабраныя празаічныя творы: абразкі, апавяданні, замалёўкі, навелы. Яны пераважна прысвечаныя вясковай тэматыцы.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**



**Сцэна са спектакля "Каралева прыгажосці з Лінэна". Фота з сайта kolastheatre.by.**

● ГАСТРОЛІ

# Спектакль пра эгаізм старых паказалі ў Маладзечне

МАЛАДЗЕЧНА

**27 лістапада Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя Якуба Коласа з Віцебску паказаў маладзечанскім гледачам спектакль "Каралева прыгажосці з Лінэна" па п'есе ірландскага драматурга Марціна Мак Донаха.**

У афішы жанр спектакля пазначаны як кухонны трылер.

У цэнтры сюжэту бытавая драма – штодзённае супрацьстаянне састарэлай маці і яе 40-гадовай дачкі, якая проста хоча быць шчаслівай.

У забытым богам гарадку ў Ірландыі жыве старая Мэг са сваёй дачкой Морын. Кожны дзень гэтых двух жанчын пачынаецца з таго, што Морын гатуе маці кашу, як таго просіць старая "без камячкоў".

Морын з усё большым азвярэннем перамешвае гэтую кашу, усё больш злуецца на маці. Нарэшце на рэпліку старой Мэг, што па радыё паведамілі пра забойства адной бабулі Морын узрываецца:

**– Я б з задавальненнем пазнаёмілася з тым забойцам, каб ён прыйшоў і прышыў цябе за проста так.**

Звыклы абедзьвум рытм жыцця парушае з'яўленне ў іх горадзе мужчыны, які калісьці быў захаканы ў Морын.

Пра тое, што прыехаў Пата Дулі, паведамляе яго малодшы брат Рэй. Ён прыходзіць да жанчын у госці і не застае Морын дома. Запрашэнне на вячэру аддае Мэг. Старая запэўнівае Рэя, што перадасць яго Морын. Як толькі Рэй пакідае дом, Мэг спальвае запіску ў печы.

Але Рэй па дарозе сустракае Морын і перадае ёй на словах.

На кухні зноў наспявае трылер. Морын называе маці падманшчыцай. Просіць не ўмешвацца ў яе асабістае жыццё:

– Маладым дзяўчатам не да твару самім заляцца да хлопцаў, – кажа Мэг.

– Мне 40 гадоў, мама! Думаеш, прыемна кожны дзень тут тырчаць з табой? А я за 40 гадоў толькі двойчы пацалавалася з мужчынамі.

– Двое – гэта шмат.

– Заткніся!

Пасля будзе яшчэ адна запіска. Ужо ад Пата. Ён, як і раней, кахае Морын, называе яе каралевай прыгажосці. У тым лісце, які ён зноў перадае праз легкадумнага Рэя, Пата просіць Морын паехаць з ім у Амерыку, а маці перадаць у дом састарэлых.

Мэг чытае гэты ліст першай…

Спектакль заканчваецца тым, што старая Мэг паміpае. Здавалася б, ну што цяпер трымае жанчыну ў Ірландыі, але Рэй прыходзіць са звесткай, што Пата ў Амерыцы заручыўся з іншай.

Морын бярэ качаргу маці і садзіцца ў яе крэсла.

– Ну вы ў гэтым крэсле ну сапраўды як ваша нябожчыца маці. Сядзіць, камандуе і імёны блытае, – падвёў рысу ў тым ліку і ў жыцці Морын Рэй.

### Найперш, гэта спектакль пра каханне

Спектакль "Каралева прыгажосці з Лінэна" у Віцебску паставіла **Ірына Цішкевіч**.

Спектакль стаў дыпломнай работай Ірыны.

– У гэтым мы вельмі падобныя з аўтарам п'есы Марцінам Мак Донахам. Гэта п'еса і для яго стала дэбютнай. Калі я выбірала п'есу для пастаноўкі, я прачытала безліч матэрыялу. Да гэтай п'есы з творчасцю гэтага драматурга я не была знаёмая. І калі дачытала да моманта, калі маці паліць ліст ад каханага дачкі, так узрадавалася! Я зразумела, што хачу гаварыць пра гэта.

Ірына Цішкевіч падкрэслівае, што ў спектаклі хацела ўзняць вечную праблему: ступень ахвярнасці дзяцей перад састарэлымі бацькамі. І тое, ці могуць бацькі патрабаваць такой ахвяры ад сваіх дзяцей.

У пачатку спектакля Морын – монстар, а Мэг – ахвяра, але калі маці адбірае ў дачкі права на шчасце, жанчыны месцамі мяняюцца.

– Спектакль мне блізкі яшчэ і таму, што гэта гісторыя закранае кожнага з нас. У спектаклі каханы Морын Пата з'язджае па лепшае жыццё з Ірландыі ў Англію. Хіба гэта тэма не блізкая Беларусі? Маці з дачкой спрачаюцца, што па радыё амаль не чуваць ірландскай мовы, а усё запаланіла англійская. Хіба і гэта не пра Беларусь?

Ролю Мэг выканала заслужаная артыстка Беларусі **Таццяна Ліхачова**, ролю Морын – **Анжаліка Баркоўская.**

Анжаліка Баркоўская расказала "Рэгіянальнай газеце", што ёй цяжка нейкім адным словам апісаць пачуцці да сваёй гераіні:

– Я не магу назваць гэта пачуццём жалю да Морын. Адзінае, што я насамрэч апраўдваю яе. Морын – не монстар. І калі адказваць на пытанне, пра што спектакль, я бы сказала, што ён пра каханне.

**І спектакль заблытаны і неадназначны як і само наша жыццё. Ён пра тое, як нашыя чаканні не апраўдваюцца.**

Прэм'ера спектакля адбылася ў Віцебску сёлета 11 чэрвеня. І сёння ўваходзіць у рэпертуар тэатра.

Таму, калі вы задумаецеся над тым, каму што павінны або вырашаваць ці варта ахвяраваць сваім шчасцем дзеля спакою блізкіх, бярыце квіток і едзьце ў Віцебск. У Морын, Мэг і Пата ўжо ёсць адказ на гэтыя вечныя пытанні.



**Наталля ТУР**
natali.turenok@gmail.com
044-566-26-99 (працоўны)

**ЖЫХАРЫ МІНСКАЙ ВОБЛАСЦІ, АСТРАЎЦА І АСТРАВЕЦКАГА РАЁНА** могуць размясціць аб'яву ў "Рэгіянальнай газеце", не выходзячы з дому, набраўшы нумар са стацыянарнага тэлефона. Паслуга платная.

**☎166**

**Рэгіянальная газета.** Rh.by Тэлетыдзень **ТРАНСПАРТ**



Вашы аб'явы аб продажы транспарту прачытаюць і ў газеце "Вечерний Бобруйск". Адна цана – дзве газеты!

**Вечерний Бобруйск**

## ВІНШАВАНКА

**Жанне Уладзіміраўне КУРАШ, Алене Леанідаўне ГРЫЦКЕВІЧ з Маладзечна**

*Нам, учитель дорогой, Ваш характер нравится!*
*Кроме вас, никто другой, с нами не управится!*
*Вы добры и справедливы!*
*Вы во всём пример для нас!*
*Самых лучших чувств порывы*
*Выражаю вам сейчас.*

**Ляпцюк Канстанцін, 4 "В" клас СШ №2.**

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• ВАЗ 2106, 1987 г.в, 1,3Б, бэжавы, добры стан, 13 500 000 руб, торг. Т. (8-029) 7587083.

• ГАЗ-3110, 1999 г.в. Т. МТС (8-029) 5769547.*

• Гольф-2, 1,6Д, па запчастках. Т. (8-029) 5662873, (8-029) 1337681.

• Дыскі металічныя з зімовай гумай Аўдзі-80 В3, б/у, 4 шт. і аркі заднія камплект. Вілейка. Т. (8-029) 7721337.*

• Жыгулі 2106, 1995 г.в. Т. Вэлком (8-044) 7125657.*

• Квадрацыкл 350 куб. м з кузавам і прычэпам, 15 000 000 руб, скутар 2-месны, трыцыкл для інваліда, бензапіла профі, ўсё б/у, у добрым стане. Т. (8-029\) 9267050, (8-029) 5545653.

• Опель-Астра, 2013 г., 90 000 000 руб. Гольф-6, 2012 г., 80 000 000 руб. Т. (8-029) 3063523.*

• Пежо-306, 2000 г.в., хэчбэк, 5 дзвярэй, бензінавы рухавік, аб'ём 1,6 л, цэнтральны замок, датчыкі дажджу, АБС, выдатная гума на ўсе сезоны. Цана дагаворная. Т. МТС 8737295.*

• Рэно Кенгу, 2001 г.в, 1,9Д, сігналізацыя, гума, карэктар фар, фаркоп, 64 000 000 руб. Т. (8-044) 7041971.*

• Рэно-Велсаціс, 2003 г.в, 2,2 дсі, колер хамелеон, усё працуе, замененае масла, рэмень, 76 000 000 руб. Т. (8-029) 7046266.*

• Рэно-Канго, 1998 г.в, 1,2 бензін, 300 тыс. км + камплект гумы, 47 000 000 руб. Т. (8-01776) 778888, (8-029) 6654868.*

• Рэно-Лагуна, 1996 г.в., нядорага. Т. (8-029) 3437131.*

• ФВ Гольф, 12.1999 г.в, 1,9 ТДІ. Т. (8-044) 7700274.*

• ФВ Гольф, 1993 г.в, 1,8, мона, універсал. Т. (8-029) 3963281.

• ФВ Пасат В4, 1994 г.в, 1,8 бензін, універсал, светла-зялёны. Т. (8-029) 7715684.

• ФВ Пасат В4, 1994 г.в, 1,8 мона, універсал, 49 000 000 руб. Т. (8-033) 6657971.

• ФВ-Гольф 2, 1992 г.в., 1,6 турба-дызель, зімовыя шыны, выдатны стан. Т. (8-033) 3889758.

• ФВ-Транспарцёр Т-2, 1987 г.в, 1,6 дызель, пасажыр, 7 месцаў, зімовыя шыны, выдатны стан. Т. (8-029) 6161018.

• Форд,1992 г. добры, 15 000 000 руб. Т. (8-033) 6388332.

• Форд-Эскорт, 1995 г.в, інжэктар, універсал, на запчасткі. Т. (8-033) 3091535.

• **ЗАПЧАСТКІ Б/У ДА А/М:** Сітраэн-Ксара, Джампер, Пікаса, Эвазьён, С3, С5, С8; Опель-Астра, Вектра, Зафіра, Амега-В; Пежо-206, 306, 307, 406, 407, 607, 806, 807, Боксер, Эксперт; Фіят-Уліс, Скунда, Пунта, Дуката; Форд-Транзіт; Таёта-Пікнік, Авенсіс, Авенсіс-Верса; Фольксваген-Цыгуан, Транспарцёр, Т4, Каравела, Крафтар, Пасат-В5, LT28; Рэно-Меган, Сцэнік, Эспэйс, Лагуна-2, Максіці, Маскот, Кангу; Міцубісі-Паджэра-3; Мерседэс-207-410, Віта, Спрынтар; Лянча-Зета, Кіа-Карневал; СААБ 9-5; Нісан-Альмера-Ціна, Кабстар; Івека-Турба-Дэйлі 35.10-59.12 ТАА "МолАўтаСтоп" УНП 690617006. Т. (8-029) 7721520, (8-029) 6015258.*

• Запчасткі б/у да Форда-Сіеры. Т. (8-029) 6578681.*

• Запчасткі да Сітраен-Ксара. Т. (8-029) 7763394.*

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО;** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак і іншых частак кузава, а таксама глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*

• Шыны з дыскамі 4 шт. да Шкода Актавія. Т. (8-029) 8605068.

### КУПЛЮ

• **АЎТАМАБІЛЬ У ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 5016186.***

• **АЎТАМАБІЛЬ** у любым стане. Т. (8-033) 6062301.*

**СТО**
- **Замена ГРМ, сцепления**
- **Восстановление суппортов**
- **Ремонт ходовой, тормозов**
- **Развал-схождение**
- **Ремонт глушителя**
- **Шиномонтаж, аргон**

Тел. в Молодечно **58-10-30, (029) 876-51-17, (029) 335-48-04, (029) 64-61-463**
*Молодечно, ул. Т. Дудко, 2* (рядом с таможней). Работаем без выходных.
ООО "Авто-Мотор- Плюс". УНП 690552830

### ПАСЛУГІ

• **ПАСЛУГІ МІНІ-ЭКСКАВАТАРА ПАД УСЕ ВІДЫ ЗЕМЛЯНЫХ РАБОТ.** ІП Матусевіч Ю І. УНП 691397070. Т. (8-029) 6654868.*

• Арэнда экскаватара-пагрузчыка. Усе віды земляных работ. ІП Грычанаў Д.Г. УНП 691882365. Т. (8-029) 5045554.*

• Міні-экскаватар, траншэі пад ваду, газ, падмурак і г.д. ІП Кроер А.Л. УНП 691397772. Т. (8-029) 6926052.*

• **МІНІ-ЭКСКАВАТАР**: усе віды земляных работ. ІП Жак А.А., УНП 691515498. Т. (8-044) 5522028.*

• Паслугі экскаватара ЕК-14 (0,85 куб.м) і франтальнага пагрузчыка ТО-18Б. Дастаўка ўласным тралам. ІП Вабішчэвіч І.В. УНП 690696017. Т. Вэлком (8-029) 3713335, МТС (8-033) 3133535.*



## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 1-пакаёвая кватэра ў Маладзечна па вул. 17 верасня, 36,7 кв. м, патрэбны рамонт. Т. (8-029) 9350596, (8-044) 4624246.

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Т. (8-033) 6380006, (8-029) 8745490.

• 2-пакаёвая кватэра. Т. (8-029) 7078401.*

• 3-пакаёвая кватэра 66,9 кв. м, с/в раздзельны, часткова шклопакеты, інтэрнэт, тэлефон. 599 000 000 руб, торг. Тэрмінова! Т. (8-01771) 20672, (8-033) 3330511.

• 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы па вул. 1 Мая, нядорага. Т. МТС (8-029) 2694696.*

• 4-пакаёвая кватэра ў Смаргоні, вул. Трактарная, 1 паверх 5-павярховага цаглянага дома. Т. (8-025) 5459808.*

• Гараж у ГК Маладзечна (ускраіна), 75 000 000 руб, торг. Т. МТС 7070885.*

• Гараж у ГК 32 Маладзечна (Фестывальны), пліты перакрыцця, патынкаваны, высокі, цана 135 000 000 руб, торг. Т. МТС 7070885, 7601272.*

• Дом 80 кв, г. Маладзечна, 7,5 соткі, 4 пакоі з мэбляй, ванна, санвузел, газ, шклопакеты. Т. (8-029) 9799267.

• Дом у в. Бязводнае Вілейскага р-на Ільянскага с/с, 7х9, ацяпленне пячное (кафель), паравое водазабеспячэнне ў доме, на вуліцы – калонка. Ёсць тэлефон і інтэрнэт. Участак 0,25 га. На ўчастку: лазня, бетаніраваны склеп, гараж і іншыя сельгасбудаўнічыя пабудовы. Усе дакументы афармленыя. Ад трасы Мінск-Мядзел – 500 м, да Вілейскага вадасховішча – 5 км. Т. (8-029) 7567653 Людміла Мікалаеўна.*

• Дом у в. Палачаны, нядорага. Тэрмінова. Т. МТС (8-033) 3618077, Вэлком (8-044) 7750241.*

• Дом у вёсцы з надворнымі пабудовамі. Т. МТС (8-029) 2568748.*

• Дом у вёсцы, 5 км ад Вілейкі, 36 000 000 руб. Т. (8-029) 5676832.*

• Дом у Вілейцы, усе выгоды, гаспадарчыя пабудовы, гараж. Т. (8-029) 5358791.

• Дом у Вілейцы. Т. МТС (8-029) 8759974.

• Дом у Маладзечне, 70/53/30 кв.м. Т. (8-029) 2608541.*

• Лецішча ў Ласях, садаводчы кааператыў "Брыльянт". Домік блочны, дагледжаны ўчастак. Т. У Маладзечна (8-0176) 753046, (8-033) 6407558.*

### ЗДАМ

• 1-пакаёвую кватэру ў Маладзечне. Т. МТС 5029804.*

• 1-пакаёвую кватэру ў Мінску. Т. (8-029)1250320.

• Кватэру ў в. Асіпавічы, нядорага. Т. (8-029) 7043307.

• Ларкі ў арэнду ў Вілейцы. Т. МТС (8-029) 7016721.*

• Ралет у арэнду,12 кв. м, у цэнтры Ашмянаў, 1 000 000 руб / месяц. ІП Улан Р.В. УНП 690288442. Т. (8-029) 6631595.*

### ІНШАЕ

• Запрашаем у долевае будаўніцтва гандлёва-забаўляльнага цэнтра і піцэрыі-кафетэрыя ў цэнтры Вілейкі. Т. (8-029) 6585363, (8-029) 7005039. ТАА "Гандлёва-забаўляльны цэнтр "Нераст" УНП 691175800.*

**СТО «АртАлексСервис»**
**для легковых авто и микроавтобусов а также ВАЗ, ГАЗ, Газель, УАЗ**

**ДИАГНОСТИКА И РЕМОНТ:**
- **двигателей**
- **подвески**
- **рулевого управления**
- **тормозных систем**
- **сцепления**
- **механических КПП**
- **задних балок французских авто**

**РЕМОНТ СУППОРТОВ**
**ШИНОМОНТАЖ**
**РАЗВАЛ-СХОЖДЕНИЕ**
**КОМПЬЮТЕРНАЯ ДИАГНОСТИКА**
- **установка и продажа стекол**
- **замена ремней ГРМ**
- **замена и ремонт глушителей**
- **экспресс-замена масла и жидкостей**
- **снятие и проверка форсунок HDI, CDI**

**Молодечно, Нагорная, 4Б** Тел. **(8-0176) 74-42-95, (8-029) 766-56-99, (8-044) 766-56-99.**
**Наличный и безналичный расчёт**
**АВТОЗАПЧАСТИ в наличии и под заказ**
ЧП «АртАлексСервис». УНП 690063270



## ПАСЛУГІ

### ДЛЯ МАЛАДЫХ

• Відэаздымка вяселляў, банкетаў і інш. урачыстасцяў. Падарыце сабе фільм, які будзе цікава глядзець доўгія гады! ІП Сысоеў А.А., УНП 691892382. Т. (8-029) 5063428.*

• Вяселлі. Юбілеі. Навагоднія карпаратывы. Т. (8-029) 6188716.*

• Вясёлы тамада, жывая музыка, разумныя цэны.Т. (8-025) 5144071.*

### ФОТА-, ВІДЭАЗДЫМКА

• АМ-Відэа. Відэаздымка і мантаж. Усю восень скідка 30% на вытворчасць вясельных фільмаў. ІП Малько А.Г. УНП 691291314. Т. (8-029) 8745891.*

### ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

• Бус 1,5 тон, нядорага. ПУП "Дойлд-С" УНП 600077312. Т. (8-029) 1921299.*

• Мерседэс, 4,5 х 2 х 2,15, да 3,5 т, санпашпарт, санкніжка, без выхадных. ІП Шыкін А.В. УНП 691507751. Т. (8-029) 8605068.*

• Мерседэс 412, 2,5 т, паслугі грузчыка. Без выхадных. ІП Габрыновіч А.В. УНП 691885058. Т. (8-029) 7015520.*

• Тэнт, да 5 т. ПТУП "Саліра". УНП 691506727. Т. (8-029) 7787574.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• Аднаўленне бухгалтарскага ўліку ІП, ПУП, ТАА, ТДА. Кансультацыя па вядзенні, 1С, аднаўленні, падаткаабкладанні, ліквідацыі (баланс), адкрыцці, рэарганізацыі. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

- **Компьютерная диагностика и ремонт электрооборудования** любой сложности;
- **Решение проблем:** клапан ЕГР, катализатор, сажевый фильтр;
- **Проверка и регулировка СО, СН;**
- **Заправка и ремонт кондиционеров;**
- **Замена ГРМ;**
- **Диагностика и ремонт подвески;**
- **Запчасти** в наличии и под заказ.

Т. Велком **(8-044) 741-91-83**, МТС **(8-029) 779-93-27**.
**Шиномонтаж** Т. **(8-044) 533-32-66, (8-029) 769-73-09.**
ОДО «Игл» УНП 690603198

• **АРГОНАВАЯ ЗВАРКА, ЗВАРАЧНЫЯ РАБОТЫ,** парогі, аркі, днішчы, аланжэроны, глушыцелі і інш. **АНТЫКАРАЗІЙНАЯ АПРАЦОЎКА DINITROL.** Замена ланцугоў, рамонт падвескі. **ФАРБАВАЛЬНЫЯ РАБОТЫ.** ІП Блоцкі Д.Г. УНП 691395713. Т. (8-029) 3239999, (8-033) 3239999.*

• Брыгада будаўнікоў выканае мантаж, дэмантаж любой складанасці, бетонныя, дахавыя, аддзелачныя і інш. віды будаўнічых работ. ІП Невяровіч Ю.П. УНП 691892829. Т. (8-029) 5671404.*

• Будаўніцтва індывідуальных жылых дамоў: дах, аддзелка любой складанасці, падмурак, кладка і інш. ПП "АлексДом" УНП 690550072. Т. (8-0176) 745851, (8-029) 7768262, (8-029) 3667001.*

• **ВЫКАНАЮ ЎКЛАДКУ ПЛІТКІ ЛЮБОЙ СКЛАДАНАСЦІ, ВЫРАЎНУЮ СЦЕНЫ.** Якасць гарантую. Досвед працы. ІП Леган А.С. УНП 691888682. Т. (8-029) 7709929.

• Выраб і ўстаноўка міжпавярховых лесвіц з дрэва і жалезабетону. Наяўны, безнаяўны разлік. ІП Клаўсюк А.А. УНП 691512274. Т. (8-029) 7792477.*

• **ВЫРАБ ЯКАСНЫХ ЧАХЛОЎ** любой складанасці, пашыў аўтамабільных салонаў, тэнтаў для лодак і катараў. ІП Мацко А.А. УНП 691514463. Т. Вэлком (8-029) 6932184.*

• Дах, заліўка фундаментаў, вагонка, блокхаўс, кладка, аддзелка лазняў, гіпсакардон, ламінат. Наяўны/Безнаяўны. Замер, дастаўка матэрыялу. Па РБ. ІП Лубочка А.А. УНП 691402568. Т. (8-029) 6096013, (8-029) 2281074.*

• **ДЫПЛОМНЫЯ, КУРСАВЫЯ, СПРАВАЗДАЧЫ ПА ПРАКТЫЦЫ.** Права, справаводства, архівазнаўства, ідэалогія, паліталогія і інш. гуманітарныя дысцыпліны дапаможа напісаць кандыдат навук. E-mail: 6661741@mail.ru. ІП Крывіцкі Л.В. УНП 190609577. Т. (8-029) 6661741 (з 14-00 да 17-00 або з 22-00 да 24-00, штодзённа).*

**Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёну:**

| | |
|---|---|
| **Астравец** | -01591, |
| **Ашмяны** | -01593, |
| **Валожын** | -01772, |
| **Вілейка** | -01771, |
| **Маладзечна** | -0176, |
| **Мядзел** | -01797, |
| **Смаргонь** | -01592. |

## Прыём дробных аб'яў

| | |
|---|---|
| **Маладзечна** | Вялікі Гасцінец, 68а. Тэл. **753841, 769667.** |
| **Астравец** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі 1. Тэл. **21140.** |
| **Ашмяны** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. **45211.** |
| **Валожын** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. **55542, 55237.** |
| **Вілейка** | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. **20083.** |
| **Вілейка** | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. **55233, 55539.** |
| **Мядзел** | вул. 17 Верасня, 2, пошта. Тэл. **55266, 55431.** |
| **Смаргонь** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. **33077.** |
| **Чысць** | вул. Зялёная, 4, магазін «Канцкласік». Тэл. **799172.** |

* *Аб'явы, адзначаныя зорачкай, змешчаны ў Інтэрнэце на сайце rh.by*


Фота з сайта mol-region-kult.by.

Аляксандр Рамановіч.

КАДРЫ

## Кіраўнік аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі пайшоў у адстаўку

МАЛАДЗЕЧНА

Начальнік аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Маладзечанскага райвыканкама **Аляксандр Рамановіч** 27 лістапада пайшоў у адстаўку ў адпаведнасці з законам Рэспублікі Беларусь "Аб дзяржаўнай службе ў Рэспубліцы Беларусь".

Пра гэта расказала начальнік аддзела арганізацыйна –кадравай работы Маладзечанскага райвыканкама **Таццяна Шафаловіч.**

Аляксандр Рамановіч расказаў "Рэгіянальнай газеце", што ён вырашыў пайсці на пенсію, папravіць здароўе.

– Рашэнне я прыняў канчатковае і ўжо склаў свае паўнамоцтвы.

57-гадовы Аляксандр Рамановіч на пасаду начальніка аддзела культуры быў прызначаны 20 лістапада 1995 года. І адпрацаваў нязменным кіраўніком 20 гадоў. У сферы культуры ж Аляксандр Рамановіч працаваў ад 1976 года.

Цяпер яго абавязкі выконвае намесніца начальніка аддзела **Алена Мар'янаўна Іванько**.

Аддзел інфармацыі.

НАВІНЫ

## У Гродне фура прыціснула кіроўцу з Маладзечна. Ён загінуў

МАЛАДЗЕЧНА

Днём 1 снежня ў Гродне загінуў кіроўца фуры, які рамантаваў яе.

Па словах відавочцаў, фура, якая належыла маладзечанскай фірме, спынілася на праспекце Кляцкова.

Мужчына пачаў рамантаваць яе, прыпадняўшы платформу машыны. У нейкі момант дамкрат сарваўся, і вадзіцеля заціснула паміж колам і платформай.

Пацярпелага выцягнулі з-пад машыны, відавочцы выклікалі хуткую дапамогу, але рэанімаваць пацярпелага не ўдалося.

У фірме, якой належала фура, падцвердзілі, што загінуў іх супрацоўнік. Мужчыну было 40 гадоў, у яго засталіся дзеці школьнага ўзросту.

Наталля ТУР
паводле s13.ru.

МЕРАПРЫЕМСТВЫ

## Пройдзе імпрэза "Мне чарку акавіты! або Чаму Скарына не меў моўнага бар'ера ў Еўропе"

МАЛАДЗЕЧНА

У суботу, 5 снежня, адбудзецца сустрэча з лінгвістам, старшынёй анамастычнай камісіі ТБМ імя Скарыны, укладальнікам "Беларускага класічнага правапісу" **Вінцуком Вячоркам.**

Тэма імпрэзы: "Мне чарку акавіты!, або Чаму Скарына не меў моўнага бар'ера ў Еўропе".

Падчас мерапрыемства ўдзельнікі абмяркуюць, якой была дзяржаўная мова ў Вялікім Княстве Літоўскім, якія мовы ведалі адукаваныя беларусы таго часу. Як моўная сітуацыя ў ВКЛ паўплывала на сучасную беларускую мову.

Імпрэза пройдзе а трэцяй гадзіне дня ў прыватнай гасцёўні **ў Маладзечне па Чыстай, 26.** Уваход вольны.

Аддзел інфармацыі.

СПОРТ

## "Смаргонь" выбыла з Кубка Беларусі

СМАРГОНЬ

Футбольны клуб "Смаргонь" прайграў "Тарпеда-БелАЗу" абодва матчы 1/8 Кубка Беларусі па футболе. Адразу смаргонцы саступілі дома 0:5.

У матчы ў адказ 25 лістапада ў Жодзіне прайгралі 1:4. Адзіны гол у смаргонцаў забіў **Сяргей Крот**.

Алесь ВЫСОЦКІ.

ВЫХАВАННЕ

# Як і калі размаўляць з дзецьмі пра СНІД

**Нашы дзеці будуць жыць у свеце, дзе ёсць эпідэмія СНІДу. Гаварыць пра гэта няпроста, але менавіта бацькі павінны дапамагчы зразумець дзіцяці, як засцерагчы сябе.**


Фота dobrenok.com.

Калі вы адштурхнеце дзіця цяпер, то яно, ужо ў больш дарослым узросце, адштурхне вас тады, калі вам будзе патрэбна яго ўвага.

Асноўны прынцып такіх размоў – дазаванне інфармацыі і расповед у даступнай дзіцяці форме.

У дашкольным узросце з'яўляюцца першыя няёмкія для бацькоў пытанні пра тое, адкуль бяруцца дзеці. Калі бацькі паводзяць сябе правільна і саромеюцца такіх размоў, то каля шасці год у дзіцяці фарміруецца разуменне, што бацькі – гэта тыя, з кім можна абмяркоўваць любыя пытанні.

У гэтым узросце пры дапамозе малюнкаў і казачных персанажаў варта простымі словамі расказваць пра здароўе, асабістую гігіену, адрозненні паміж дзяўчынкамі і хлопчыкамі.

Варта абапірацца на прыклады са штодзённага жыцця. Напрыклад, калі дзіця параніла руку, то вам, аказаўшы першую дапамогу, варта даць элементарныя веды пра ВІЧ–інфекцыю і неабходныя правілы гігіены.

Непасрэдна тэмы наркотыкаў, палавых адносінаў, ВІЧ і СНІДу варта агучваць у 9–12 год.

Менавіта ў гэтым узросце ў дзіцяці адбываюцца фізічныя і псіхічныя змяненні. У перыяд палавога развіцця дзеці асабліва цікавяцца ўсім, што звязана з сексуальным жыццём. Ім варта даваць поўную і дакладную інфармацыю. Калі ў гэтым узросце патрэбныя веды не даюць бацькі, падлетак трапляе пад уплыў больш дасведчаных сяброў.

**Дзіця павінна стаць дарослым і самастойным, а бацькі павінны змяніць ролю выхавальніка на ролю сябра.**

Школьніку патрэбныя канкрэтныя адказы на пытанні, і ён ужо ў стане іх зразумець. Раскажыце, што ведаеце самі, пазбягаючы незразумелай тэрміналогіі. Невядомыя словы могуць выклікаць трывогу і страх. Самы просты і эфектыўны метад размовы на складаныя тэмы – абмеркаваць канкрэтныя матэрыялы: кнігі, артыкулы, мультфільмы, фільмы. Прапануйце дзіцяці разам паглядзець навукова–папулярны ці мастацкі фільм на патрэбную тэму.

Падлеткавы ўзрост самы складаны і для дзіцяці, і для яго сям'і. Падлеткі імкнуцца самазацвердзіцца, у тым ліку ў вобласці сексуальных адносінаў. Не панікуйце. Гэты перыяд трэба перажыць.

### Чаго трэба дасягнуць

Калі размаўляеце пра ВІЧ, не варта страшыць вірусам. Ваша мэта – абараніць дзіця. Вам трэба дасягнуць наступнае:
- каб дзіця карысталася індывідуальнымі прадметамі гігіены;
- не спяшалася з першым сексуальным досведам;
- разуменне, што галоўнае ў адносінах – узаемапавага і вернасць;
- пераканаць у катэгарычным "НЕ" наркотыкам.

### Як стаць добрымі бацькамі

**– Будуйце даверлівыя адносіны.**

Працуйце над узаемаадносінамі так, каб за любым адказам дзіця ішло менавіта да вас. Калі хочаце дасягнуць шчырасці ад сына ці дачкі, вам трэба быць шчырым самім. Калі нешта абяцаеце, выконвайце абавязкова!

**– Дзіця чуе тых, хто чуе яго.**

Калі вы бачыце, што дзіця ўзрушанае, не сумяшчайце слуханне з іншымі справамі. Аддавайце хаця б 20 хвілін чыстага часу кожны дзень толькі на тое, каб уважліва выслухаць сына ці дачку.

Калі вы адштурхнеце дзіця цяпер, то яно, ужо ў больш дарослым узросце, адштурхне вас тады, калі вам будзе патрэбна яго ўвага.

**– Павышайце самаацэнку дзіцяці.**

Гэтага лёгка дасягнуць, калі не патрабаваць недасягальнага і хваліць за кожнае дасягненне. Няхай будзе больш задач, якія выканаць лёгка, а значыць, і больш перамог.

**– Пачынайце размову самі.**

Бацькі могуць доўга чакаць, калі дзіця звернецца з вострым пытаннем, але гэтага можна і не дачакацца. Калі ў сям'і некалькі дзяцей, з кожным варта гаварыць паасобку нават на адну і тую ж тэму.

### Пагаварыце яшчэ раз. І яшчэ

Большасць дзяцей і падлеткаў могуць засвоіць толькі частку размовы. Адна сустрэча не можа сфармуляваць дакладнае разуменне па такім складаным пытанні. Не бойцеся пачынаць зноў.

Дзеці хочуць быць упэўненымі ў бяспецы, а задача бацькоў – зрабіць гэтую бяспеку рэальнай.

Вольга МАЛАШКА,
псіхолаг Маладзечанскага РТЦСАН.

КУЛЬТУРА

## Юныя віляйчане сталі лаўрэатамі "Беларускіх талентаў"

ВІЛЕЙКА

Прадстаўнікі Вілейскай дзіцячай школы мастацтваў 28 лістапада ўдзельнічалі ў другім адкрытым конкурсе маладых выканаўцаў "Беларускія таленты" ў Мінску. Удзельнікі з усёй краіны спаборнічалі ў розных намінацыях.

Лаўрэатамі першай ступені ў намінацыях "эстрадны вакал" (сола) сталі ў сваіх узроставых групах **Вікторыя Саванец** і **Ірына Храмцова**. Лаўрэатам трэцяй ступені прызналі **Ганну Грышкевіч**.

Паміж ансамбляў лаўрэатам першай ступені стаў вакальны ансамбль Вілейскай школы мастацтваў.

– Удзельнікаў конкурсу было вельмі шмат. Напрыклад, вакальных калектываў было больш за 20, – расказала выкладчыца школы мастацтваў **Нэла Зайцава**. – Апроч таго, што дзяцей узнагароджвалі дыпломамі і медалямі, яны атрымлівалі сертыфікаты на бясплатны ўдзел у іншых конкурсах.

Алесь ВЫСОЦКІ.

ГІСТОРЫЯ

# Мсціслаўскаму педтэхнікуму – 90 гадоў

## У ім атрымалі адукацыю многія настаўнікі нашага рэгіёна

**У лістападзе 2015 года Мсціслаўскаму дзяржаўнаму беларускаму педтэхнікуму спаўняецца 90 гадоў з дня яго адкрыцця.**

Дырэктарам Мсціслаўскага педтэхнікума быў ад 1925 года да 1927. Пасля працаваў навуковым супрацоўнікам Інбелкульта, а потым Інстытута мовазнаўства АН БССР. З 1930 года знаходзіўся ў РСФСР і на Украіне.

Ён – аўтар мноства навуковых артыкулаў па беларускім мовазнаўстве. Найбольш значнае яго навуковае дасягненне – "Краёвы слоўнік Усходняй Магілёўшчыны", які з'яўляецца самым поўным зборам беларускай дыялектычнай лексікі. Для яго складання аўтар наведаў у 20-я гады больш за 400 населеных пунктаў былой Калінінскай акругі з цэнтрам у горадзе Клімавічы, у якую ўваходзіў і Мсціслаў – так сцвярджае аб гэтым мсціслаўскі краязнавец, былы дырэктар Мсціслаўскага гісторыка-археалагічнага музея У. Л. Гасянкоў у кнізе "Памяць. Мсціслаўскі раён". 17 лютага 1930 года Янку Бялькевіча ўлады беспадстаўна абвінавацілі, арыштавалі і выслалі ў Йашкар-Алу на пяць гадоў. Рэабілітавалі яго 19 верасня 1960 года, а 18 кастрычніка гэтага ж года ён памёр.

### Навучэнцы Мсціслаўскага педтэхнікума

У 1928–30 гадах у Мсціслаўскім педтэхнікуме вучыўся Аркадзь Куляшоў, будучы народны пісьменнік Беларусі, і разам з ім вучыўся Юлій Таўбін, таленавіты беларускі паэт, рэпрэсаваны ў 1937 г. і расстраляны.

У 1929 годзе педтэхнікум скончыў Змітрок Астапенка, ураджэнец вёскі Калеснікі Мсціслаўскага павета. У 1938 годзе яго рэпрэсавалі на восем гадоў. На пачатку вайны трапіў на фронт, загінуў у 1944 годзе. Ён – беларускі паэт, аўтар некалькіх вершаваных зборнікаў, паэм, пісаў прозу, займаўся перакладамі.

Таўбін і Астапенка былі заснавальнікамі "Маладняка" – літаратурнага аб'яднання пры педтэхнікуме, якое ўзнікла пры непасрэдным удзеле маладых беларускіх пісьменнікаў Кандрата Крапівы і Уладзіміра Дубоўкі, якія ў снежні 1925 года прыязджалі ў Мсціслаў.

У 1925 годзе ў Мсціслаў двойчы прыязджаў і Якуб Колас: першы раз летам разам з Максімам Гарэцкім і чытаў лекцыі на курсах павышэння кваліфікацыі настаўнікаў пры педтэхнікуме, а другі раз – у снежні і сустракаўся са студэнтамі і выкладчыкамі педтэхнікума, прысутнічаў на занятках. Тады паэт прабыў у Мсціслаўлі тры дні.

Яшчэ Масей Сяднёў, які нарадзіўся ў 1915 годзе ў вёсцы Мокрае Клімавіцкага павета, вучыўся ў Мсціслаўскім педтэхнікуме ў 1930-32 гадах, а потым у Мінскім вышэйшым педінстытуце (1933-36 гг.). У 1936 годзе быў арыштаваны і высланы на Калыму, дзе прабыў пяць гадоў у канцлагеры.

**Перад вайной яго пад канвоем прывезлі ў Мінск для даследавання. Нечаканым чынам ён апынуўся на волі: яго адпусціў турэмны канвой каля горада Чэрвеня ў час адступлення ў чэрвені 1941 года.**

Ад 1943 года Сяднёў жыў за мяжой. У Міхельсдорфе (Германія) быў настаўнікам беларускай гімназіі. У 1950-м пераехаў у ЗША. Рэабілітаваны ў студзені 1992 года. За мяжой выдаў кнігі паэзіі "У акіяне ноч", "Спадзяванні", "Цень Янкі Купалы", "Ля ціхай брамы", "Ачышчэнне агнём", "А часу больш, чым вечнасць". У сваіх вершах і празаічных творах Сяднёў пісаў пра перажытае ў лагерах і турмах. Памёр у 2001 годзе.

У розныя гады Мсціслаўскі педтэхнікум скончылі многія вядомыя ў краіне людзі. Сярод іх вучоны-археолаг Сяргей Кузьміч Кабанаў (у 1929 г.), вучоны і паэт Іван Цярэнцьевіч Гоманаў (1930), Ганна Іосіфаўна Сапрык (1926), беларуская пісьменніца; Ірыда Рыгораўна Васільева (1936), заслужаная настаўніца БССР і іншыя.



Студэнтка 3 курса Мсціслаўскага педвучылішча, удзельніца мастацкай самадзейнасці Надзея Стэфанаўна Есянкова, 1939 год.

Фота з сямейнага архіва

Пазней Мсціслаўскае педвучылішча скончылі Леанід Пракопавіч Падгайскі (1954), мовазнавец, доктар педагагічных навук, і Аляксандр Іосіфавіч Падлужны (1954), мовазнавец, акадэмік НАН Беларусі, доктар філалагічных навук. А ў 1941 годзе педвучылішча скончыў і Андрэй Трафімавіч Шакура, удзельнік вайны, старшыня калгаса "21 з'езд КПСС" на Мсціслаўшчыне, Герой Сацыялістычнай Працы (1966).

Герояў-аграрыяў на Мсціслаўшчыне было шмат – ажно восем чалавек, а людзі ў калгасах і саўгасах жылі неадпаведна бедна, і яны, ратуючыся, пакідалі іх, таму вёскі хутка бязлюдзелі, чаго век не было да гэтага.

Скончылі Мсціслаўскае педвучылішча і працавалі настаўнікамі, атрымалі з часам званні заслужаных: П. Д.Урублеўскі, А. А.Сімчанка, А. Р.Сімчанка, А. П.Салдаткіна, А. А.Лаўрэнава, Г. І.Генералава, М. І.Нікіценка, С. І.Карпечкін – усе яны настаўнічалі на Мсціслаўшчыне. С. І. Карпечкін з 1960 года працаваў загадчыкам Мсціслаўскага РАНА.

У Мсціслаўскі педтэхнікум паступіў з вёскі Старожні і мой бацька, Сцяпан Аўхімавіч Кажамяка, 1911 года нараджэння. Ён у 1925 годзе скончыў Маляціцкую сямігодку, і каб яму не адмовілі ў прыёме, мусіў аддзяліцца ад сваіх бацькоў-аднаасобнікаў, паспяхова здаў уступныя экзамены, і яго залічылі студэнтам.

Але правучыўся ён толькі два гады, бо памёр яго бацька, і маці, якая засталася адна на даволі вялікай уласнай гаспадарцы, папрасіла яго вярнуцца і дапамагаць у працы. І ён дапамагаў, толькі нядоўга. Ужо ў 1929 годзе ў раёне з'явіўся першы калгас імя Чарвякова.

### Пагрозы, прымусы, рэпрэсіі і расстрэлы былі звычайнай справай

У 1931 годзе калектывізацыя ішла поўным ходам, калгасы ствараліся адзін за адным хутка, і былі яны маламалікімі, у іх уваходзіла ад 10 да 36 сем'яў. Багатых сялян, якія супраціўляліся калектывізацыі, назвалі кулакамі, іх імгненна раскулачвалі, многіх высылалі ў аддаленыя раёны. Пагрозы, прымусы, рэпрэсіі і расстрэлы былі звычайнай справай. Актыўна дзейнічалі суды. Давалі ад года да васьмі гадоў турмы за нязгоду, за спробы шукаць праўду, за нават бяскрыўдныя выказванні. І ў раёне ўжо ў 1932 годзе была праведзеная поўная калектывізацыя.

Некалі мая родная цётка Еўка, успамінаючы той перыяд, расказвала мне пра калектывізацыю так: "Ні звання людзі не хацелі ісці ў калгасы. Наша матка плакала, не ведала, што рабіць. Усе плакалі, ты думаеш смех…"

Мой бацька, такім чынам, у хуткім часе зрабіўся калгаснікам, бо адабралі зямлю, аб якой так клапацілася маці і так яе шкадавала. Забралі коней, жывёлу, сельгасінвентар. Паабяцалі заможнае жыццё. Бацька ўвесь час жыў у калгасе, часам ваяваў і ў 1939, і ў Фінляндыі, у 1943 быў паранены. Яго мары стаць педагогам не здзейсніліся. А ён вельмі паважаў і шанаваў настаўніцкую працу, а яшчэ і працу медыкаў, аб гэтым гаварыў пры выпадку і раіў мне вучыцца ці на медыка, ці на настаўніка. І яно так і атрымалася: абодва яго сыны, скончыўшы сельгасакадэмію, працавалі выкладчыкамі ў тэхнікумах. А юнацкія мары аб працы ў школе не адпускалі бацьку доўга. Ён, калі я вучыўся ў школе, цікавіўся школьнымі падручнікамі і з асаблівай ахвотай рашаў складаныя матэматычныя задачы з падручнікаў і з газет: у той час іх бывала змяшчалі ў газетах для конкурсаў, і ён праверяў свае здольнасці, атрымаўшы правільны адказ, быў задаволены. Задачы бацька рашаў добра, матэматыку ён любіў асабліва.

Мая родная цётка Надзея Стэфанаўна Есянкова, 1921 года нараджэння, з вёскі Ходасы 2, скончыла Мсціслаўскае педвучылішча ў 1939 годзе і працавала настаўніцай пачатковых класаў, а перад вайною паступіла ў Магілёўскі педінстытут. Вельмі любіла настаўніцкую працу і дзяцей.

Яна прыгожа спявала і займалася ў педвучылішчы танцамі.

**Уладзімір КАЖАМЯКА,**
**Ілья Вілейскага раёна.**

**Працяг будзе.**

КАЛЯНДАР

### 6 СНЕЖНЯ

**215 гадоў** з дня нараджэння Іосіфа Ходзькі (1800 – 1881), беларускага падарожніка, геадэзіста, ваеннага тапографа. Нарадзіўся ў мястэчку Крывічы Вілейскага павета, цяпер Мядзельскі раён. Вучыўся ў Віленскай універсітэцкай гімназіі і на фізіка-матэматычным факультэце Віленскага ўніверсітэта, які скончыў у 1821 г. Па рэкамендацыі прафесара ўніверсітэта Снядэцкага залічаны ў Корпус ваенных тапографаў. Праводзіў трыянгуляцыйныя работы на захадзе Латвіі, у Літве, у Гродзенскай і Мінскай губернях. Лідары паўстання 1830-1831 гадоў меркавалі прызначыць яго камендантам Вільні.

### 10 СНЕЖНЯ

**145 гадоў** з дня нараджэння Фердынанда Рушчыца (1870 – 1936), беларускага жывапісца, графіка, тэатральнага дэкаратара, педагога. Нарадзіўся ў маёнтку Багданава Ашмянскага павета, цяпер Валожынскі раён. У яго творчасці знайшлі адлюстраванне жыццё і побыт беларускага народа. Дачка мастака Яніна Рушчыц сцвярджала, што яе бацька заўсёды лічыў сябе тутэйшым, г. зн. беларусам. У 1892–1897 гадах навучаўся жывапісу ў Пецярбургскай імператарскай акадэміі мастацтваў спачатку пад кіраўніцтвам Івана Шышкіна, а пасля Архіпа Куінджы, вучнямі якога таксама былі Аркадзь Рылоў, Мікалай Рэрых, Канстанцін Урублеўскі. Па заканчэнні атрымаў званне мастака. У 1898 годзе, на вясновай выставе ў акадэміі маскоўскі калекцыянер і мецэнат Сава Марозаў купіў карціну яго "Зімовы млын", што дазволіла здзейсніць працяглае вандраванне па Заходняй Еўропе.

Пасля доўгі час жыў у сядзібе ў Багданаве, якую пасля шматгадовага занепаду давёў да ладу яго бацька, зрэдку падарожнічаў па Беларусі і Расіі. У 1919–1932 гадах – прафесар аддзялення прыгожых мастацтваў універсітэта Стэфана Баторыя ў Вільні. У 1921 годзе стаў арганізатарам першай афіцыйнай выставы польскіх мастакоў у Парыжы. Быў узнагароджаны ордэнам Ганаровага легіёна. Памёр у Багданаве і пахаваны на мясцовых могілках.

**1865 год.** Расійскі ўрад забараніў асобам каталіцкага веравызнання і "польскага паходжання" купляць і арандаваць зямлю на Беларусі.

**1945 год.** У Рэгенсбургу (Германія) адкрылася беларуская гімназія імя Янкі Купалы (дырэктар Аляксандр Орса).

**Падрыхтавала**
**Марыя БЕРАСНЕВА.**

СУСТРЭЧЫ

# У Латвіі прэзентавалі кнігу твораў Вольгі і Сяргея Сахаравых

МАЛАДЗЕЧНА

**Кнігу пра дзеячаў беларускай культуры, якія жылі і працавалі ў міжваеннай Латвіі, у верасні выдалі паэт і журналіст Сяргей Панізьнік і краязнаўца з Маладзечна Міхась Казлоўскі.**

Прэзентацыю правялі 20 лістапада ў Рызе. Яе арганізавалі дзякуючы Амбасадзе Беларусі ў Латвіі, Латвійскаму таварыству беларускай культуры "Світанак", Беларускаму інфацэнтру пад кіраўніцтвам **Уладзіслава Рэдзькіна**. Дзякуючы арганізатарам паездка і пражыванне для гасцей з Беларусі было бясплатным.

Мерапрыемства адбылося ў зале акадэмічнай бібліятэкі Латвійскага ўніверсітэта. Прысутнічала дырэктар бібліятэкі **Вента Коцэрэ**, журналісты, сябры беларускіх таварыстваў у Латвіі "Світанак" і "Уздым", дырэктар і настаўнікі Беларускай асноўнай школы ў Рызе, а таксама праваслаўны святар, прадстаўнік мітрапаліта ўсяе Латвіі Аляксандра.

Напачатку імпрэзы ўнучка Вольгі і Сяргея Сахаравых **Нонна Вільгельмаўна Ахметулаева** пракаментавала відэафільм, складзены з фотаздымкаў сямейнага архіва.

**У сваім выступленні Сяргей Панізьнік адзначыў, што даўно займаецца вывучэннем гісторыі беларускай дыяспары ў Латвіі, сярод прадстаўнікоў якой важнае месца займаюць Сахаравы.**

Міхась Казлоўскі паведаміў, што да падрыхтоўкі кнігі яго веды ў галіне гісторыі беларусаў у Латвіі былі недастатковымі, і толькі дзякуючы Панізьніку ён адкрыў для сябе двух важных дзеячоў, якія вартыя, каб іх працу ўшанавалі ў кнізе.

Госці з Беларусі атрымалі цэлую гару кветак ад прысутных у зале жанчын, а самі падарылі некаторыя беларускія кнігі. Міхась Казлоўскі адзначае вельмі цёплую і сямейную атмасферу сустрэчы.

На наступны дзень спадар Міхась меў магчымасць прайсціся па Старой Рызе, экскурсію па якой для яго правёў беларускі мастак і пісьменнік у Латвіі **Вячка Целеш**. Краязнаўца разам з унучкай Сахаравых пабываў на Іванаўскіх могілках, дзе пахаваны Сяргей Сахараў з роднымі і блізкімі.

Міхась Казлоўскі распавёў, што яго расчуліў і крануў момант, калі падчас прэзентацыі сын былой старшыні "Світанка" Тацціяны Казак **Мікола** зачытаў верш Вольгі Сахаравай з чыстым беларускім вымаўленнем:

### Яму і Бацькаўшчыне

*На чужым берагу*
*мы з табою адны*
*Навакол злая ўюга*
*бушуе.*
*І штодня сніца мне,*
*Як ў радной старане*
*Сонца ласкай п'яніць*
*і калдуе.*
*Хай у чужой старане*
*мы з табою адны,*
*Навакол хай ўюга*
*рыдае,*
*Але ведаем мы,*
*Што край любы,*
*радны*
*Наша імя дабром*
*успамінае.*

**(20 снежня 1925 г., Дзвінск)**

Наклад выбраных твораў Вольгі і Сяргея Сахаравых амаль цалкам разышоўся. Кнігу можна пачытаць у бібліятэцы "Верасок".

Аддзел інфармацыі.




Фота забяспечана Міхасём КАЗЛОЎСКІМ.

Падчас прэзентацыі ў Рызе. Злева направа: Сяргей Панізьнік і Міхась Казлоўскі.

2016 ГОД

# У вас ёсць магчымасць праславіцца

**Па ўсходнім календары новы год будзе годам Вогненнай Малпы. Для аднаго ён будзе складаны, для некага спакойны, без нейкіх там катаклізмаў, а для кагосьці і ўвогуле запамінальны. Ён уступіць у свае правы 8 лютага.**




Астролагі кажуць, што год будзе такі, як характар у Малпы. А Малпа – істота вясёлая і непрадказальная. Менавіта гэтыя якасці яна збіраецца прыўнесці і ў наша жыццё. Вогненнa-чырвоная жывёліна вымусіць забыцца пра спакой і сум. Кожны дзень будзе цікавы і чакаць наступнага вы будзеце з радасцю. Навіны і сюрпрызы будуць бясконца. Не палохайцеся – радасныя і прыемныя.

Малпы ж, як маленькія дзеці, яны і капрызяць, і сваволяць. І ні хвіліны на месцы. Так што чакайце нечаканых паваротаў лёсу.

Галоўнае, не ўвязвацца ў розныя спрэчкі і канфлікты, асабліва чужыя. Хаця верагоднасць быць уцягнутым у разборкі іншых людзей высокая, як ніколі. Затое спрыяльны час для самарэалізацыі і новых пачынанняў – ці то ў бізнесе, ці то ў асабістым жыцці. Добры час і для прасоўвання па кар'ернай лесвіцы.

Вогненная апякунка дасць магчымасць праявіць сябе і праславіцца. Аднак, скарыстацца гэтым шанцам ці не – вырашаць толькі вам. У любым выпадку, вы пазнаеце штосьці новае, якое тычыцца вялікага жыцця вакол вас, ці загляніце ў самы цёмны куток уласнай душы.

### Характарыстыка Малпы

У адпаведнасці са старажытным усходнім гараскопам, які існуе ўжо не адну тысячу гадоў, кожным годам апякуецца адно з дванаццаці жывёл. Гэта жывёла – не проста сімвал. Хутчэй, гэта набор уласцівасцяў і якасцяў, які будзе характарызаваць адпаведны гэтай жывёле год і людзей, народжаных у гэтым годзе. Такім чынам, ведаючы, якая жывёла апякуецца кожным годам, можна зазірнуць у будучыню.

Малпа тэмпераментная і эмацыйная, а таксама хітрая і каварная. Дамагаецца сваіх мэтаў любымі сродкамі. У яе няма пастаянства, яе настрой можа мяняцца кожную хвіліну: то яна плача, то смяецца, то атрымлівае асалоду ад жыцця, то ўпадае ў дэпрэсію. Але гэтая зменлівасць больш адносіцца да сферы эмоцый, чым да сферы дзеянняў. Нават падчас бурных перападаў настрою яна будзе памятаць аб пастаўленых мэтах і працягваць ўпарта імкнуцца да іх ажыццяўлення.

Малпа чароўная і прывабная, а таксама вельмі кемлівая і вынаходлівая. Яе розум гнуткі і хуткі, яна здольная думаць пра мноства рэчаў адначасова. Можа стварыць выгаднае ўражанне на суразмоўцу і схіліць яго на свой бок. Карыстаецца папулярнасцю ў супрацьлеглага полу, хоць яе партнёрам часта бывае цяжка яе зразумець.

**2016 год – высакосны. І гэта выклікае трывогу. Але не трэба палохацца, год прынясе толькі тое, што мы самі вольна ці нявольна хочам і жадаем. А каб забабоны не пацвердзіліся, будзьце асцярожныя, уважвайце кожнае сваё рашэнне.**

### Якія якасці ўласцівыя людзям года Малпы

Людзі, народжаныя ў такі год, – разумныя і начытаныя, валодаюць выдатнай памяццю, якой толькі можна пазайздросціць. Яны могуць успомніць дэталі ўбачанага, прачытанага ці пачутага да драбніц. Урэшце, ім памяць гэтак неабходная, паколькі ўсё ў іх у беспарадку.

Такія людзі перакануаўчыя, яны любяць гаварыць і ўдзельнічаць у дыскусіях. Заўсёды рады дапамагчы парадай, хаця самі аддаюць перавагу ўласным меркаванням. У іх багатая фантазія, яны непаўторныя, аптымісты, жыццё ў іх багатае на падзеі і прыгоды. Для такіх людзей практычна не існуе праблем. Маючы добра развіты інстынкт выжывання, яны змогуць выбрацца з самых, здавалася б, безвыхадных сітуацый.

Людзі-малпы – кар'ерысты. У іх ёсць усе дадзеныя, каб дабіцца вышынь. Гэта вельмі каштоўны работнік, але са сваім норавам, з моцным характарам. Амаль няма поля дзейнасці, дзе б яны не змаглі сябе праявіць. Дзякуючы артыстычнасці і ўменню працаваць з інфармацыяй з іх атрымоўваюцца добрыя артысты, журналісты, сакратары, адміністратары. Яны могуць знайсці сваё прызванне ў тэатры, кіно, на тэлебачанні і будуць шчаслівыя і ўдачлівыя на гэтым полі дзейнасці. Камерцыйная дзейнасць таксама прынясе ім поспех.

Яшчэ яны ўмеюць рабіць грошы і знаюць ім цану, але надта любяць шыкоўнае жыццё і не хочуць у чым-небудзь сабе адмаўляць.

Звышактыўная і дзейная Малпа на самой справе меланхолік. Ёй уласцівы скептычны погляд на свет. А там дзе ёсць скепсіс, заўсёды ідзе трэніроўка інтэлекту. Так што пры агульнай несістэмнасці мыслення Малпу можна назваць вельмі разумнай. У яе мысленні не хапае прастаты, а ўсяго астатняга больш чым дастаткова.

### Адмоўныя рысы характару

Яны добра адчуваюць настрой іншых людзей, умеюць знаходзіць іх слабыя бакі і карыстаюцца гэтым для дасягнення сваіх мэтаў. Сярод малпаў шмат махляроў і шарлатанаў, якія пазбаўленыя сумлення і ўспамінаюць пра яго толькі тады, калі да іх саміх адносяцца несправядліва. Мараль такім непатрэбная. Яны могуць лёгка салгаць, калі гэта ім трэба. Сябе лічаць вышэй за іншых.

Малпы схільныя да самалюбавання. Іх зачароўвае ўласнае адлюстраванне ў люстэрку. Але пры ўсіх адмоўных рысах (ганарыстасць, ілжывасць, адсутнасць педантычнасці) на Малпу не надта сярдуюць, паколькі яна ўмее падабацца.

Людзі-малпы могуць быць як разбуральнікамі, так і стваральнікамі. Усё залежыць ад таго, куды яны накіруюць сваю, якая стаіць за гранню логікі і розуму, сілу.

### Людзі, народжаныя ў год Малпы

Аляксандр Македонскай, Леанарда да Вінчы, Рэнэ Дэкарт, Джардана Бруна, Джордж Байран, Бенедыкт Спіноза, Джон Мільтан, Іван Кажадуб, Аляксандра Калантай, Аляксандр Герцэн, Барыс Палявы, Канстанцін Ракасоўскі, Мікалай Дабралюбаў, Георг Чачэрын, Антон Дзянікін, Джозэф Чэмберлен, Фаіна Ранеўская, Арнэла Муці. Сярод Малпаў ёсць і некалькі адыёзных фігур: Грыгорый Распуцін, маркіз дэ Сад і Леапольд фон Захер-Мазох (аўстрыйскі пісьменнік).

Чарговы год Вогненнай Малпы будзе праз 60 гадоў – у 2076-м. Папярэдні быў у 1956 годзе. Важныя падзеі – "хрушчоўская адліга", з'явіўся фільм "Карнавальная ноч", які дэманструюць і па сёння.

Марыя УРБАНОВІЧ.

# Падарункі ад шчырага сэрца запомняцца надоўга

**Пачатак снежня – самы час задумацца над падарункамі для сваіх блізкіх і знаёмых. Перш чым бегаць па магазінах у пошуках, паразважайце, які падарунак хацеў бы атрымаць чалавек, узгадайце яго захапленні.**



Фота nevsedoi.com.ua.

**Перш чым бегчы ў магазін па падарункі, ацаніце свае фінансавыя магчымасці, узгадайце інтарэсы чалавека, якому ён прызначаны, пафантазіруйце, што хацеў бы атрымаць адрасат. Але галоўнае – дарыце ад шчырага сэрца.**

Набывайце загадзя, так вы пазбавіцеся турбот і чэргаў перад самім святам.

### Для мамы любы падарунак ад дзяцей прыемны

Малюнак на звычайнай паперы, сувенір, зроблены сваімі рукамі, альбо нешта дарагое – любая ўвага ад дзяцей маме будзе прыемная. Галоўнае, каб падарунак паказаў, наколькі вы любіце самага дарагога вам чалавека. Калі вы ўсё ж у разгубленасці, вось прыкладны спіс таго, што можна набыць:

**1. Кубак з фотаздымкамі**

На яго вы можаце нанесці свае фотаздымкі і фотаздымкі мамы, калі ёсць жаданне, дадаць і надпіс, напрыклад, "Любімай маме" альбо пажаданні, кампліменты.

Можна замовіць кубачак, фотаздымкі ў якім будуць праяўляцца, калі наліць у яго гарачай вады. Гэта будзе прыемнай нечаканасцю, магчыма нават выкліча слёзы замілавання. Такі кубачак у вашай мамы дакладна стане самым любімым.

**2. Бытавая тэхніка**

Уважліва прыслухоўвайцеся да таго, што гаворыць ваша мама, магчыма яна незадаволеная працай бытавой тэхнікі. Гэта падштурхне вас да таго, каб купіць новую тэхніку. Калі мама напужаная мноствам кнопак на дысплэі, разбярыцеся разам. Гэта зблізіць вас яшчэ больш.

**3. Касметыка**

Не забывайцеся на тое, што ваша мама, як і любая жанчына, хоча быць прыгожай. Каб даць адчуць гэта ёй яшчэ раз, падарыце касметыку альбо дарагія духі. Але перш, чым ісці ў магазін, вывучыце касметыку на туалетным століку, панюхайце духі. Калі баіцеся памыліцца з пахам, сцягніце на некаторы час флакончык з духамі мамы. Так у вас дакладна атрымаецца выбраць тое, што ёй падабаецца.

### Лепшыя сябры дзяўчат – брыльянты

Словы з вядомай песні, аднак, каб паказаць, наколькі вы любіце сваю каханую, не абавязкова траціць усе свае зберажэнні. Галоўнае для большасці дзяўчат – увага. Вось некаторыя рэчы, якім дзяўчаты будуць задаволеныя:

**1. Упрыгожанне**

Выдатным падарункам для любой жанчыны будзе залатое альбо сярэбранае ўпрыгожанне. Калі вы хочаце, каб падарунак яшчэ больш нагадваў пра вас, падарыце кулон, у якім будзе фотаздымачак. Выразьшлі падарыць пярсцёнак, можаце выгравіраваць невялічкае пажаданне. Аднак памятайце пра тое, што такі падарунак можа быць успрыняты, як намёк.

**2. Фотакаляндар**

На кожны месяц можна падабраць фотаздымак, напісаць тэкст-успамінаў вашых адносінаў альбо пажаданні. Такі каляндар можна замовіць у фотамайстэрні, а спецыялісты дапамогуць аформіць яго.

**3. Тэхніка**

Фен, шчыпцы для завівання валасоў, набор для манікюру, новы тэлефон – штосьці з гэтага будзе не толькі прыемны, але і карысны падарунак.

### Падарунак для каханага можаце выбіраць разам з ім

Большасць хлопцаў любіць карысныя і практычныя падарункі. Прыемныя дробязі іх наўрад ці здзівяць. Таму абмяркуйце загадзя, які падарунак чакаюць ад вас, а магчыма схадзіце па пакупкі разам. Калі ж ваш хлопец таксама хоча сюрпрыз, прыгадайце яго захапленні.

**1. Для спартыўнага хлопца** – абанемент у спартыўную залу альбо басейн, рэчы для заняткаў спортам альбо фірменнае спартыўнае адзенне.

**2. Для аўтааматара**

Бірулька з нумарам машыны, навігатар альбо відэарэгістратар – падыдзе ўсё, што звязана з машынай.

**3. Новая тэхніка**

Будзе не толькі карысным падарункам, але і ўвесь час будзе нагадваць пра вас.

### Што падарыць дзіцяці

Ды ўсё, што заўгодна, яно будзе задаволенае любым падарункам. Вы можаце набыць цукеркі ва ўпакоўцы з сімвалам надыходзячага года – малпы альбо выявай Дзеда Мароза. Гэта можа быць незвычайная цацка альбо кніжка.

Калі ж узніклі цяжкасці з выбарам, спытайце, якога падарунка дзіця чакае пад ёлачкай.

**Не забывайцеся на падарункі для сваіх партнёраў і кліентаў. Нават невялічкі сувенір будзе вельмі прыемны, а ваша далейшая супрацоўніцтва больш плённым.**

Гэта могуць быць паштоўкі, календары з лагатыпам, фірменным знакам вашай кампаніі.

Каб Новы год сапраўды ўдаўся, не забудзьцеся і пра сябе. Купіце абноўку альбо тое, аб чым вы даўно марылі.



**Галіна СІНІЦА**
8793850
@gmail.com
Skype: sinica-galina92





## Парады, як выбраць падарунак

**1. Ацаніце фінансавыя магчымасці.**

Не лезьце са скуры, калі ў вас няма грошай на дарагі падарунак. Багатага вы не здзівіце, а чалавека сярэдняга заробку можаце паставіць у няёмкае становішча. Ён будзе адчуваць, што абавязаны вам зрабіць такі ж самы.

Падбярыце **невялічкі сувенір**, які будзе нагадваць пра вас, альбо сімвал надыходзячага года. Вы можаце зрабіць нешта сваімі рукамі, напрыклад, магніцік на халадзільнік, паштоўку, звязаць шалік, які спатрэбіцца зімой. Такі падарунак падкрэсліць, што вы не пашкадавалі часу, цэніце чалавека, якому адрасаваны падарунак.

**2. Не рабіце індывідуальны падарунак кіраўніку**, калі толькі вы не хочаце паказаць, што па-асабліваму ставіцеся да яго. Лепш сабраць калектывам і падумаць, што падарыць.

**3. Людзям, якія схільныя да забабонаў**, не дарыце прадметы з сакральным сэнсам. Напрыклад такія: хустачка – да слёз, гадзіннік – да расстання, нож і іншыя вострыя прыборы – да спрэчкі, кашалёк – да патрэбы.

**Аднак, калі вы вырашылі** зрабіць адзін з пералічаных вышэй падарункаў, пастарайцеся развеяць забабоны. У кашалёк пакладзіце невялічкую суму грошай, да гадзінніка прыкладзіце паштоўку, у якой будзе напісана нешта прыемнае.

НАВІНЫ

## Каманда "Горад" перамагла ў чэмпіянаце па баскетболе

ВІЛЕЙКА

Чэмпіянат прайшоў 26 і 27 лістапада. Прынялі ўдзел у ім 10 камандаў.

Адразу іх падзялілі на дзве падгрупы. На першым этапе каманды аддзела адукацыі, спорту і турызму і ЗАТ "Ростэм" не прайгралі ніводнай сустрэчы. У плэй-оф выйшлі па дзве лепшыя каманды з кожнай падгрупы, расказаў інструктар-метадыст цэнтра фізкультурна-аздараўленчай работы "Сатурн" **Аляксандр Вайда**.

У паўфінале прадстаўнікі аддзела адукацыі, спорту і турызму прайгралі камандзе "Горад" з лікам 18:41, а "Ростэм" саступіла «Зеніт-БелОМА" 14:16.

У фінале сустрэліся каманды "Горад" і "Зеніт-БелОМА". Лік 32:26 на карысць "Горада".

У матчы за трэцяе месца перамагла каманда аддзела адукацыі, спорту і турызму.

Пасля гэтых спаборніцтваў у круглагадовай спартакіядзе працоўных калектываў лідзіруюць прадстаўнікі аддзела адукацыі, спорту і турызму (240 ачкоў). Далей ідуць "Зеніт-БелОМА" (235 ачкоў) і "Энергазбыт" ( 211).

## Мядзяльчанкі – пятыя ў вобласці па валейболе

МЯДЗЕЛ

Прадстаўніцы Мядзельскага раёна ўдзельнічала ў чэмпіянаце Мінскай вобласці па валейболе сярод жаночых камандаў. Праходзіў ён 27-28 лістапада ў Нясвіжы.

Мядзяльчанкі ў выніку занялі пятае месца, распавёў **Андрэй Русак**.

## Лепшыя ў скалалазанні – нарачанцы

МЯДЗЕЛ

У Нарацкай сярэдняй школе №1 21 лістапада адбыліся спаборніцтвы па спартыўным скалалазанні. Яны праводзіліся асобна па двух відах скалалазання: боўлдэрынг і хуткасць.

Спаборнічалі каманды дзевяці ўстаноў адукацыі. Пераможцамі ў асабістым заліку ў боўлдэрынгу ў сваіх узроставых групах сталі **Мацвей Каліноўскі** з Нарацкай СШ №2, **Станіслаў Шальц** і **Любоў Пісарчык** (Нарацкая СШ №1), **Анастасія Хіла** з Мядзельскага яслей-сада – сярэдняй школы.

У сваіх узроставых групах у відзе "хуткасць" перамаглі **Дзмітры Марозаў, Павел Шнітоўскі, Ганна Дамасевіч і Яна Пецольт** з Нарацкай СШ №1.

У агульнакамандным заліку ў кожным відзе спаборніцтваў перамагла каманда Нарацкай СШ №1. Пра ўсё гэта паведамілі з цэнтра творчасці, турызму дзяцей і моладзі раёна.

Даведка "РГ" **Боўлдэрынг** – разнавіднасць спартыўнага скалалазання, якая заключаецца ў праходжанні серыі кароткіх, але цяжкіх трас.

## Ашмянскія паўэрліфтары ў тройцы лепшых у Каўнасе

АШМЯНЫ

Паўэрліфтары з ашмянскага спартыўна-атлетычнага клуба "Аякс" прымалі ўдзел у Кубку прыбалтыйскіх краін. Праходзіў ён 28 лістапада ў Каўнасе.

Па інфармацыі клуба "Аякс" найлепшыя вынікі, трэція месцы, у сваіх вагавых катэгорыях ў **Надзеі Мікелсонс** і **Дзяніса Горгуна.**

У адным кроку ад п'едэстала спынілася **Крысціна Шлыковіч**. Пятае і шостае месцы адпаведна ў **Дзмітрыя Кіркоўскага** і **Дзяніса Чымбара**.

## У Вілейцы сабралася больш за 400 плыўцоў

ВІЛЕЙКА, МАЛАДЗЕЧНА

У цэнтры фізкультурна-аздараўленчай работы "Сатурн" 28 лістапада прайшоў пяты традыцыйны турнір "Кубак надзей" ў праграме адкрытага першынства Мінскай вобласці па плаванні. Было 420 удзельнікаў, вучняў пятых- адзінаццатых класаў.

Паміж дзевяці камандаў былі дзве з нашага рэгіёна – Вілейкі і Маладзечна.

Сярод вучняў пятага класа і маладзейшых трэція месцы завявалі **Ксенія Дашкевіч** і **Мацвей Галкін** з Маладзечна.

Блізка да п'едэсталу аказаліся віляйчане **Ягор Яхімовіч, Ілья Буракоўскі, Яўген Маліноўскі, Іван Клютчэня**, расказаў намеснік дырэктара СДЮШАР Вілейскага райвыканкама **Аляксеў Тарбееў**.

**Аддзел інфармацыі.**



Фота забяспечана Віталём ФІЛІПОВІЧАМ.

Пераможца турніру – каманда "Зубраня" (злева направа Віталь Філіповіч, Валеры Латочка, Канстанцін Гурскі, Уладзімір Рагель, Віталь Місуна.

МІНІ-ФУТБОЛ

# "Зубраня" перамагла ў міжрэгіянальным турніры па міні-футболе

МЯДЗЕЛ, ВІЛЕЙКА

**У нядзелю, 29 лістапада, завяршыўся міжрэгіянальны турнір па міні-футболе ў Мядзеле. Удзельнічалі ў ім шэсць камандаў з трох раёнаў.**

У заключным туры "Мядзел" згуляў з "Паставамі" і перамог 7:4.

Цікавым і багатым на галы выдалася гульня паміж "Вілейкай" і "Шылавічамі". "Вілейка" ўвесь час лідзіравала, але на апошняй хвіліне саненікі здолелі зраўняць лік 8:8.

"Зубраня" забяспечыла сабе перамогу ў турніры яшчэ за тур да заканчэння спаборніцтваў. Аднак у апошнім матчы гульцы не расслабіліся і перайгралі "Юнацтва" з Мядзела 8:4.

"Зубраня" набрала 15 ачкоў. Каманда выйграла ўсе свае матчы на турніры, і па праву заняла першае месца.

На другім месцы з 10 ачкамі – "Вілейка", на трэцім "Юнацтва" (7 ачкоў). Далей у турнірнай табліцы размясціліся "Паставы", "Шылавічы" і "Мядзел".

– Усе каманды выглядалі нядрэнна, і нават "Мядзел" у апошнім туры здолеў атрымаць перамогу, – расказвае дырэктар Мядзельскага фізкультурна-аздараўленчага цэнтра **Андрэй Русак**. – Удзельнікам турнір спадабаўся: гуляюць з новымі сапернікамі, набіраюцца досведу. Таму ў планах – зрабіць турнір пастаянным. Просяць, каб быў ён у два кругі, каб была магчымасць адыграцца.

Каманда-пераможца атрымала Кубак і грамату. Падарункамі адзначылі найлепшых на турніры. Найбольш галоў, 14, забіў **Віталь Філіповіч** з каманды "Зубраня". Найлепшым гульцом стаў **Аляксей Юхнавец** ( "Вілейка"), варатаром – **Валеры Латочка** ("Зубраня").

– Рады, што быў арганізаваны такі турнір, усё-ткі новыя каманды, іншы узровень. Хацелася б, каб турнір меў працяг, – дзеліцца капітан каманды "Зубраня" **Віталь Філіповіч.**

Асноўнымі сапернікамі да пачатку турніру прадстаўнікі "Зубраня" лічылі "Вілейку" і "Паставы". Але пасля першых гульняў стала зразумела, што асноўны канкурэнт – "Вілейка".

– Для каманды ўсё склалася добра, – працягвае Віталь Філіповіч. – Але нават вялікія лікі ў матчах не значаць, што было лёгка. Галоўная прычына гэтага тое, што гулялі мы без замен, як і "Вілейка", на працягу ўсіх пяці гульняў. А ў астатніх камандаў было практычна заўсёды дзве чацвёркі.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

ПЕРШАЯ ЛІГА

## Найлепшым гульцом "Смаргоні" стаў Яўген Калінін

СМАРГОНЬ

У афіцыйнай групе футбольнага клуба "Смаргонь" у сацсетцы праводзілі галасаванне: заўзятары выбіралі найлепшага гульца каманды сезона 2015 года. Ім стаў **Яўген Калінін**. Ён набраў больш за 37% галасоў.

На рахунку гульца 10 забітых мячоў і сем галявых перадач. Па сістэме гол + пас ён набраў 17 ачкоў. Гэта другі паказчык у камандзе, расказаў прэс-аташэ "Смаргоні" **Уладзімір Амбрасевіч.**

Яшчэ рашэннем Савета футбольнага клуба "Смаргонь" найлепшым маладым гульцом каманды прызнаны **Максім Яблонскі**. Максім – выхаванец Смаргонскай ДЮСШ па футболе. У гэтым сезоне ён гуляў у 27 матчах і толькі ў адным з іх выйшаў на замену. Забіў адзін гол.



Фота fc-smorgon.by.

Яўген Калінін.

## "Смаргонь" выбыла з Кубка Беларусі

СМАРГОНЬ

Футбольны клуб "Смаргонь" прайграў "Тарпеда-БелАЗу" абодва матчы 1/8 Кубка Беларусі па футболе. Адразу смаргонцы саступілі дома 0:5.

У матчы ў адказ 25 лістапада ў Жодзіне прайгралі 1:4. Адзіны гол ў смаргонцаў забіў **Сяргей Крот.**

**Аддзел інфармацыі.**

## Камент-эксперт

Не трымайце ў сабе: напішыце, што думаеце

Пакідайце каментары пад артыкуламі на інтэрнэт-старонцы Rh.by ці ў суполках газеты ў сацсетках

**У Гродне фура прыціснула кіроўцу з Маладзечна. Ён загінуў (Фота)**

Быў чалавек і няма чалавека... *Таня.*

**За падарункі шчодрых жаніхоў беларускам прыйдзецца плаціць падаткі**

Яны ўжо не ведаюць, як яшчэ абдзёрці і без таго бедны народ! І нават даходы, атрыманыя маладымі на вяселлі, – ЯК??? Як гэта можна ўявіць??? А чаму ж тут не напісана, што я магу пасаць гэты орган далёка і надоўга за такія пытанні? *Sh@m@n.*

**Навагоднія падарункі каштуюць ад 74 да 330 тысяч рублёў (Фота)**

"Акцыя дзейнічае да 31 лістапада." У лістападзе 30 (!) дзён))) Вось табе і акцыя. *Alex.*

Ёсць падарункі і па 50 000. У гэтым жа магазіне. *Вера.*

### АДЗІН МОМАНТ З ЖЫЦЦЯ МАЛАДЗЕЧНА



Фота Настассі РОЎДЫ.

Работнікі "Камунальніка" Генадзь (злева) і Міхаіл падчас усталявання ёлкі на Цэнтральнай плошчы ў Маладзечне.

### ТЭАТР

## Мінскі абласны драматычны тэатр

*РАНІШНІЯ СПЕКТАКЛІ*

**Увага! Дзеці і бацькі!** Толькі ў нас – у абласным драматычным тэатры ці не хочаце ўбачыць навагоднюю аванцюрную КАЗКУ ДЛЯ ЎСЁЙ СЯМ'І – "**Мех з сюрпрызам, альбо Як лясная братва Новы год сустракала**".

Героі казкі – самыя крутыя лясныя насельнікі: Лясун, Кікімара, Салавей-разбойнік, Гарыныч таксама хочаць атрымаць ад Дзеда Мароза падарункі! Паглядзець казку і паўдзельнічаць у ёй запрашаем

**ад 19.12.2015**
**да 30.12.2015**
у 10:30 і 13:00.

*ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ*

"**Сямейны партрэт са староннім**" (камедыя ў 2-х дзеях), *Сцяпан Лабазёраў*
10 снежня – 19:00

"**Камедыя**" (камедыя ў 2-х дзеях паводле твораў *К.Марашэўскага і Ф.Аляхновіча*)
15 снежня – 19:00

"**Старая зайчыха**" (меладрама) , *Мікалай Каляда*
17 снежня – 19:00

Прэм'ера! "**Афінскія вечары**" (сучасная гісторыя), Пётр Гладзілін
18 снежня – 19:00

Тэатр мае права на замену спектакляў

***Маладзечна, вуліца Чкалава, 7.***

Тэл. для даведак: **75-24-17** (каса), **75-29-16** (намеснік дырэктара).
E-mail: modt@tyt.by, http://theatre-modt.by/.

УНП 600066659



### СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 7 | 2 | | | | | | | |
| 6 | | | 2 | | | | 3 | |
| 1 | | | 6 | | 7 | | | |
| | 4 | 1 | | | | | | |
| | 8 | | 1 | 7 | 9 | | 2 | |
| | | | | | | 5 | 8 | |
| | | | 5 | | 2 | | | 6 |
| | 3 | | | | 1 | | | 7 |
| | | | | | | | 5 | 3 |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



### КІНО

## Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Мультфільм, прыгоды, фэнтэзі "**Савва. Сэрца воіна**" (3D, Расія, 2015, без узроставых абмежаванняў)
5 снежня – у 12:00
6 снежня – у 12:20
Цана білета: 30 000 рублёў

Мультфільм, анімацыя "**Добры дыназаўр**" (3D, ЗША, 2015, без узроставых абмежаванняў)
4 снежня – у 17:30
5 снежня – у 14:00
6 снежня – у 14:20
7, 8 снежня – у 17:00
9 снежня – у 19:10
Цана білета: 30 000 – 50 000

Фантастыка, прыгоды "**Галодныя гульні: Сойка-перасмешніца. Частка II**" (3D, ЗША, 2015, пасля 16 год)
4 снежня – у 22:00
5 снежня – у 18:10
6 снежня – у 21:00
8 снежня – у 21:30
Цана білета: 55 000 – 60 000 рублёў

Прыгоды, баявік, драма "**У сэрцы мора**" (3D, ЗША, 2015, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
4 снежня – у 19:30
5 снежня – у 22:00
6 снежня – у 18:30
7, 9 снежня – у 21:10
8 снежня – у 19:00
10 снежня – у 19:10
Цана білета: 55 000 – 60 000

Фэнтэзі "**Ён – дракон**" (3D, Расія, 2015, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
5 снежня – у 16:00
6 снежня – у 16:20
7 снежня – у 19:00
9 снежня – у 17:00
Цана білета: 30 000 рублёў

Прэм'ера! Камедыя, сямейны "**SOS, Дзед Мароз ці ўсё споўніцца**" (Расія, 2015)
10 снежня – у 17:10
Цана білета: 25 000 рублёў

Прэм'ера! Прыгоды, фэнтэзі, камедыя "**Страшылкі**" (ЗША, 2015, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
10 снежня – у 21:40
Цана білета: 45 000 рублёў

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Анімацыя, сямейны "**Рыф**" (ЗША, Паўднёвая Карэя, 2012)
5 снежня – у 17:00
6 снежня – у 15:00
Цана білета: 20 000 рублёў

Прэм'ера! Анімацыя "**Уверх нагамі, ці недзе ў гэтым лесе**" (Расія, 2015, без узроставых абмежаванняў)
4 снежня – у 17:00
5 снежня – у 15.30



6 снежня – у 13:30
Цана білета: 12 000 рублёў

Анімацыя "**КінаДзяцінства. Ін і Яна**" (Расія, 2014, без узроставых абмежаванняў)
5 снежня – у 13:30
6 снежня – у 17:00
Цана білета: 12 000 рублёў

Жахі "**Ваўчынае логава**" (ЗША, 2013, пасля 16 год)
4 снежня – у 21:00
5 снежня – у 19:00
6, 7, 9 снежня – у 21:30
8, 10 снежня – у 19:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Камедыя "**Суперфарсаж**" (ЗША, 2014, пасля 16 год"
4 снежня – у 19:00
5, 8, 10 снежня – у 21:00
6 снежня – у 19:00
7, 9 снежня – у 19:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Тэл. : **8(0176) 77-15-92, 77-06-30.**

**Забраніраваць білет можна праз сеціва на сайце megamag.by.**

## Кінатэатр "Мір", Вілейка

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Анімацыя "**Незвычайнае падарожжа Серафімы**" (Расія, без узроставых абмежаванняў)
4 снежня – у 17:40
5 снежня – у 14:30
6 снежня – у 15:10
Цана білета: 12 000 рублёў

Камедыя "**Суперфарсаж**" (ЗША, пасля 16 год)
4 снежня – у 19:00
5 снежня – у 18:00
6 снежня – у 20:00
9, 10 снежня – у 17:50
Цана білета: 35 000 рублёў

Камедыя "**Асабліва небяспечная**" (ЗША, пасля 16 год)
4 снежня – у 20:50
5 снежня – у 20:00
6 снежня – у 18:00
9, 10 снежня – у 19:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Анімацыя "**Вясёлыя біяграфіі**" (Расія, без узроставых абмежаванняў)
5 снежня – у 13:30
6 снежня – у 13:00
Цана білета: 12 000 рублёў

Анімацыя "**КінаДзяцінства. Мікропаліс**" (Расія, без узроставых абмежаванняў)
6 снежня – у 14:00
Цана білета: 12 000 рублёў

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Анімацыя "**Добры дыназаўр**" (3D, ЗША, без узроставых абмежаванняў)
4 снежня – у 17:30
5 снежня – у 17:00
9 снежня – у 18:00
Цана білета: 50 000 рублёў
5 снежня – у 13:00
6 снежня – у 16:20
Цана білета: 30 000 рублёў

Баявік, драма, прыгоды "**У сэрцы мора**" (3D, ЗША, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
4 снежня – у 19:20
5 снежня – у 21:30
6 снежня – у 18:30
9 снежня – у 20:00
Цана білета: 55 000 рублёў

Фантастыка, прыгоды "**Галодныя гульні: Сойка-перасмешніца. Частка II**" (3D, ЗША, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
4 снежня – у 21:30
5 снежня – у 18:50
6 снежня – у 20:40
Цана білета: 55 000 рублёў

Анімацыя "**Сава. Сэрца воіна**" (3D, Расія, без узроставых абмежаванняў)
5 снежня – у 15:00
6 снежня – у 14:30
Цана білета: 30 000 рублёў

Анімацыя "**Перапалох у джунглях**" (3D, Паўднёвая Карэя, Мексіка, без узроставых абмежаванняў)
6 снежня – у 13:00
5 снежня – у 17:00
Цана білета: 15 000 рублёў

Фэнтэзі "**Ён – дракон**" (3D, Расія, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
10 снежня – у 18:00
Цана білета: 30 000 рублёў

Камедыя "**SOS, Дзед Мароз і ўсё збудзецца**" (2D, Расія, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
10 снежня – у 20:00
Цана білета: 25 000 рублёў

Тэл. **8(01771) 5-68-59.**

### ГАРАСКОП 4-10 СНЕЖНЯ



**Авен.** Давядзецца праявіць гнуткасць розуму і максімум кемлівасці. Паглядзіце па сітуацыю, не перастарайцеся з ціскам на навакольных, а па некаторых дробязях можна і ўступіць.



**Цялец.** Не бярыце на сябе абавязацельствы, якія высмоктваюць з вас энергію. Добры час для падвядзення вынікаў, у тым ліку для аналізу бюджэту, даходаў і расходаў.



**Блізняты.** Вы не раз задумаецеся пра несправядлівасць гэтага свету: вы так стараецеся, каб усім было добра, але менавіта вам у выніку бывае дрэнна. Але на гэта ёсць свае прычыны. Разабрацца ў іх – ваша задача.



**Рак.** Перыяд разумовай і фізічнай актыўнасці. Вы будзеце старацца не спыняцца на дасягнутым, вас будзе вабіць новае і нязведанае.



**Леў.** Вы павінны весці барацьбу з усім, што вам непрыемна. Вы цяпер – воін, Дон Кіхот, які змагаецца за праўду. Перыяд доўжыцца да 22 снежня і носіць нейкі глабальны характар у вашым жыцці.



**Дзева.** Удзяляючы больш увагі блізкім, вы ўзнавіце душэўную раўнавагу, а з часам прыведзяце ў парадак і рабочыя справы.



**Шалі.** Не заганяйце крыўды глыбока ў сябе, умейце дараваць. І тады жыццё будзе расквечанае рознымі колерамі вясёлкі, вам не прыйдзецца звяртацца па дапамогу да доктара.



**Скарпіён.** Здароўе турбаваць асабліва не будзе, вірусы абыдуць бокам, а жыццё прымусіць пазбавіцца і ад шкодных звычак.



**Стралец.** Не шукайце лагічных падказак у розуму, не спрабуйце пралічыць свой шлях. Логіка проста не бачыць сапраўдных шляхоў, іх бачыць толькі сэрца.



**Казярог.** Сямейныя пары будуць шумна высвятляць адносіны, змагацца за высокае званне "гаспадара ў доме". Гэта зачэпіць нават тых, хто не першы год разам. Але сядзьце і падумайце: ці гэта важна?



**Вадалей.** Не здавай пазіцый і дасягаць недасяжнага. Галоўнае, паверыць у сябе і адчуць сілы. А яшчэ наступае час кахання, пяшчотных пачуццяў і гатоўнасці ахвяраваць сабой дзеля каханага.



**Рыбы.** Вы ніяк не можаце вырашыць пытанне з набыццём чагосьці значнага. Дык на гэтых дня, нарэшце, ваша мара ажыццявіцца. І вы будзеце задаволеныя.

Марыя УРБАНОВІЧ.

ISSN 1991-7155
9 771991 715006

**Камент-эксперт**
Выкажы сваё меркаванне пра газету ці пра асобны артыкул, паслаўшы SMS-паведамленне на нумар +375 (29) 67-68-420, на e-mail regionnews@rh.by або пакінь каментар на Rh.by

Рэгіянальная газета. Rh.by
тэлетыдзень

## ● НАДВОР'Е

**5 снежня, субота**

| | Пятніца | | | Субота | | | Нядзеля | | | Панядзелак | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +3 / +6 | 748 | ↗ 4 | +4 / +5 | 747 | → 4 | +2 / +6 | 741 | ↗ 7 | +6 / +9 | 748 | → 3 |
| Вільня | +4 / +5 | 754 | ↗ 7 | +4 / +4 | 755 | ↗ 6 | +2 / +5 | 747 | ↗ 8 | +7 / +8 | 756 | → 3 |

Тэмпература паветра, Воблачнасць ападкі, Ціск (мм рт. сл.), Хуткасць ветра м/с, Усход, захад па Маладзечне

Усход 9.15
Захад 16.50
Даўжыня дня 7.35

Усход 2.20
Захад 14.31
Квадра 4

| Горад | Тэмпература | Ціск | Вецер |
|---|---|---|---|
| Віцебск | +3 / +5 | 747 | → 4 |
| Гродна | +4 / +4 | 745 | ↗ 7 |
| Мінск | +4 / +5 | 747 | → 4 |
| Магілёў | +3 / +5 | 753 | → 5 |
| Брэст | +5 / +7 | 758 | ↗ 4 |
| Гомель | +4 / +6 | 759 | → 6 |

### ● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я Ў РЭГІЁНЕ

**ВАЛОЖЫН**

Мінімальная тэмпература -14,3 °С у 1980 годзе
Максімальная тэмпература +8 °С у 2008 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 9,1 мм у 2011 годзе
Назіранні за 38 год. Паводле meteoinfo.by

## Чытайце праз тыдзень:

- У якім з раёнаў Маладзечна самыя дарагія кватэры. У чым адрозненне кватэр са старой і новай планіроўкай. У якім раёне Маладзечна найчасцей набываюць жыллё.



### ● ПРОСТА АНЕКДОТ

Жаночая логіка, як ліцэнзійнае пагадненне: нічога не зразумела, але вымушаны пагаджацца.

***

Самыя пахмурныя людзі раніцай нясуць самыя звонкія пакеты са смеццем.

***

Эканомія – гэта мастацтва траціць грошы, не атрымліваючы ніякага задавальнення.



### ● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў РЭГІЁНЕ

## Які падарунак вы хацелі б атрымаць на Новы год?



**Канстанцін Лях, начальнік каравула аварыйна-выратавальнай часці, Мядзел:**
– Для мяне, як для чалавека, у якога дзень нараджэння амаль супадае з Новым годам, важна, каб падарунак пакінуў памяць пра свята. На ўсё жыццё запомніў падарунак з дзяцінства – паравозік. Сваім блізкім набываю падарункі з лістапада. Стараюся рабіць сюрпрызы, каб яны адчувалі святочную атмасферу.



**Вольга Зяноўка, у дэкрэтным адпачынку, Вілейка:**
– Калі з матэрыяльнага, то залатое ўпрыгожанне. Самым прыемным падарункам была навіна пра атрыманне кватэры. Сваім блізкім доўга выбіраю падарункі. Стараюся, каб яны былі карыснымі, а не папоўнілі скрыню непатрэбных рэчаў. Як і ў дзяцінстве чакаю навагодніх сюрпрызаў пад ёлачкай.



**Надзея Рогач, выхавацелька, Вілейка:**
– Буду задаволеная нават невялічкім сувенірам. Аднак, калі сама набываю падарункі, доўга ўзважваю, ці спадабаецца чалавеку. Нават, калі гавораць, які падарунак хочуць атрымаць, лягчэй не робіцца. Самы запамінальны падарунак на Новы год, які атрымала, – завушніцы.



**Лідзія Лавор, гаспадыня, Маладзечна:**
– Грошы, яны цяпер вельмі патрэбныя. Калі буду набываць падарункі для блізкіх, спытаюся, што ім патрэбна. Звычайна дару сама, а не кладу пад ёлачку. Вельмі прыемна бачыць усмешкі блізкіх.



**Іван Саленік, юрыст, Астравец:**
– Хацеў бы аб'ектыў "Canon 85mm 1,2". Але гэта толькі мара. Сваім блізкім ужо набыў падарункі. Звычайна дару сам, каб убачыць, што яны адчуваюць, калі атрымліваюць падарунак. Самым запамінальным падарункам быў вялікі цацачны кран.



**Ксенія Шурпік-Шаварнёва, настаўніца, Маладзечна:**
– Хацела б акварыумных рыбак. Але найбольш запомніўся Новы год, калі была ў радзільні, мяне адпусцілі дамоў і муж запусціў феерверк. Некаторыя могуць палічыць гэта банальным, а мяне гэта надзвычай узрадавала. Сама ніколі не пытаюся, чаго хоча чалавек у падарунак, стараюся здагадацца.



**Ігар Емяльяненка, зваршчык, Вілейка:**
– Галоўнае – адзначыць Новы год разам са сваімі блізкімі. Падарункі – гэта другаснае. Мне будзе прыемная любая дробязь, галоўнае, каб яна была падараная з душой, ад шчырага сэрца.

**Падрыхтавала Галіна СІНІЦА.**

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№49 (1075) 4.12.2015. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59а.
Ліцэнзія ЛП №02319 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 1529. Падпісана ў друк у 9.00 3.12.2015.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68-а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E-mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.